# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 5 (2355)

3 лютага 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 30 рублёў.





## НА ФАЛЬКЛОРНЫ ПАСАД МІЖ НАРОДАМІ

Радасна ўсведамляць, нягледзячы ні на што: Бацькаўшчына наша ўсё ж спраўджвае мару свайго вялікага песняра і, хоць са спазненнем, але ідзе на свой "пачэсны пасад між народамі", а цяпер рыхтуе свой песенны ўбор да Першага міжнароднага фестывалю фальклору ў Рэспубліцы Беларусь. Ён пачнецца на Зялёныя Святы 15 чэрвеня 1994 года ў Пінску і закончыцца 21 чэрвеня ў Мінску. Прыемна ўражвае, што прыняць у ім удзел выказалі жаданне ўжо больш за 16 краін свету.

Найпрыгажэйшымі кветкамі нашага нацыянальнага ўбору на гэты пачэсны пасад пасля абвяшчэння джяржаўнай самастойнасці Беларусі бачацца цяпер прынящце беларускай мовы як джяржаўнай, усталяванне спрадвечных нацыянальных беларускіх сімвалаў "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга, на што таленавіты народ адразу адгукнуўся дасціпным жартам: "Украінец частуе беларуса сваім салам і пытае, ці смачнае. -- Вельмі, -- адказвае той, -- усё такое беленькае, вось толькі каб яшчэ чырвоная мясная палосачка пасярэдзіне, тады яшчэ смачнейшае было б!"

Этапнымі ў нацыянальным жыцці сталі ўстанаўленне беларускіх святаў Вялікадня, Дзядоў, Калядаў як дзяржаўных, мінулагодні Першы з'езд беларусаў свету, нядаўняе наведанне Беларусі Білам Клінтанам з сям'ёй, пачатак цывілізаванага ўпарадкавання ўзаемаадносін з Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой і іншымі дзяржавамі-суседзямі, наша ўваходжанне ў культуру Еўропы.

Задума правесці фестываль беларускага фальклору належыць яшчэ рашэнням ЮНЕСКА 80-х гадоў, у якіх ад Беларусі прымаў удзел доктар філалагічных навук Анатоль Фядосік. Там было ўхвалена правядзенне нацыянальных фестываляў усходніх славян у Маскве, Кіеве і Мінску. Першыя два з іх адбыліся адпаведна ў 1988 і 1990 гадах, а беларускі, хоць і са спазненнем, адбудзецца ў бягучым годзе. Значэнне яго для сцвярджэння культурнай самабытнасці беларусаў у свеце і актывізацыі працэсаў нацыянальнага Адраджэння пераацаніць цяжка.

Канцэпцыя фестывалю па ўзроставаму прынцыпу выпрацавана і апрабіравана на мінулагодняй навукова-практычнай канферэнцыі "Фальклор як сродак выхавання нацыянальнай свядомасці", арганізаванай і праведзенай навукова-творчым аб'яднаннем Асацыяцыя фалькларыстаў Беларусі сумесна з Міністэрствамі культуры, адукацыі і інфармацыі на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, якая закончылася фестывалем вясковых, дзіцячых і маладзёжных фальклорных калектываў. Яна здаецца вельмі натуральнай і лагічнай, адпавядаючай мэтам нацыянальнага Адраджэння.

Аргкамітэт Першага міжнароднага фестывалю на Беларусі ўзначальвае Уладзімір Гілеп -- першы намеснік міністра культуры. У яго ўвайшлі прадстаўнікі многіх, маючых дачыненне да вывучэння, збірання, інтэрпрэтацыі і выкарыстання фальклору дзяржаўных і навуковых устаноў, творчых аб'яднанняў, фальклорных калектываў, але дзверы яго адкрыты для ўсіх сяброў беларускай культуры.

Вось прыкладная праграма фестывалю, прапанаваная выканаўчай дырэкцыяй, створанай на аснове Беларускага інстытута праблем культуры на чале з рэктарам Уладзімірам Скараходавым.

(Заканчэнне на 7-й стар.).



M. Zabejda Foto Archiv

## Michal Zabejda

**З сённяшняга нумара мы пачынаем друкаваць манаграфію пра Міхала Забэйду-Суміцкага "Беларускі салавей". Наша газета ўжо неаднойчы звярталася да асобы гэтага выдатнага спевака, узнаўляючы старонкі яго слаўнага і трагічнага жыцця. Спадзяёмся, што новая публікацыя будзе цікавай для тых, каму дарагая культурная спадчына нашага народа, хто справядліва лічыць, што кожны беларус патрэбны сваёй Бацькаўшчыне.**

(Пачатак манаграфіі М. ШЧАГЛОВА "Беларускі салавей" змешчаны на 5-й стар.).

## ЦІ ЗБУДЗЕЦЦА ПРАРОЦТВА З. ПАЗЬНЯКА?



**Позна ўвечары 26 студзеня, калі былі агалошаны вынікі галасавання аб пазбаўленні паўнамоцтваў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча, лідэр апазіцыі Зянон Пазьняк кінуў у залу, наўздагон дэпутатам, якія спакойна разыходзіліся, горкія, змрочныя словы: "Сёння вы дамагліся свайго -- знялі Шушкевіча. Заўтра ў гэтай жа зале вы пахаваеце суверэнітэт Беларусі..."**

**Што будзе далей, цяжка прадракаць. Не хацелася б пагаджацца з Пазьняком, але...**

**Але наменклатурна-бюракратычная большасць парламента, якая сустрэла словы лідэра апазіцыі здзеклівым рогатам, зрабіла сваю справу. Палітычная рулетка, разыграная па-беларуску, прынесла паражэнне адраджэнцам. Як сказаў назаўтра дэпутат ад апазіцыі Валянцін Голубеў, парламент пазбавіў улады апошняга дэмакрата ў Вярхоўным Савеце -- Станіслава Шушкевіча. Партыя была разыграна дасканала: выдалі літоўцам двух камуністаў, за гэта абвінавацілі генеральнага пракурора рэспублікі В.Шаладонава, які даў вусную згоду на іх арышт, а днямі з займаемых пасад знялі непажаданых старшыню КДБ Шыркоўскага і міністра ўнутраных спраў Ягорава. Пасля гэтага быў лёгка вырашаны лёс Станіслава Шушкевіча. Па словах З.Пазьняка, адбыўся "паўзучы камуністычны пераварот".**

НА ЗДЫМКУ: Э.ШЫРКОЎСКІ і У.ЯГОРАЎ пакідаюць залу Вярхоўнага Савета.

Фота Васіля ФЯДОСЕНКІ ("Знамя юности").

**Алесь САЛАВЕЙ**

### ПЕСНІ

*Прысвячаецца М. ЗАБЭЙДЗЕ-СУМІЦКАМУ*

Песні гэтыя чуў я ад маці,
Калі быў дзіцянём шчэ малым,
А падрос -- чуў і ў полі і ў хаце,
Чуў усюды, аддаўшыся ім.

Чуў у шолаху кожнай сцяблінкі,
Чуў у шэпаце жытніх палёў,
У цвіліканні ўзнёслай птушынкі,
У сярэбраным звоне раўчкоў.

І цяпер мне ўспаміны ушчулілі
Спеў, сабраны і з гукаў зямных.
І з нябёсаў, і з вуснаў матулі,
Так далёкіх і так дарагіх.

Скарбы гукаў мастак у адзіных
Шчырых песнях сардэчна прапеў,
І ў маркоце халоднай чужыны
Мне й сябрам маім сэрцы сагрэў.

*г. Рыга, 1943 г.*

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНЫ ВІЗІТ*



**У нашай краіне з афіцыйным візітам пабываў Старшыня Ваеннага камітэта НАТА фельдмаршал Рычард Вінсент.**

**Ён меў гутаркі з міністрам абароны генерал-палкоўнікам Паўлам Казлоўскім, першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаілам Мясніковічам, якія расказалі госцю аб палітычным і эканамічным становішчы ў Беларусі, запрасілі наведаць адну з воінскіх часцей.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Р. ВІНСЕНТА і М. МЯСНІКОВІЧА.**

*АХВЯРАМ ВАЙНЫ*

### ПАМІНАЛЬНАЯ МАЛІТВА

**У Ружанскай царкве адбылася паніхіда ў памяць ахвяр фашысцкага тэрору. Пяцьдзесят гадоў назад эсэсаўцы акружылі вёску Байкі, што ў Ружанскай пушчы, і ўчынілі крывавую расправу над яе жыхарамі. У тую студзеньскую раніцу было расстраляна 950 жанчын, мужчын, старых, дзяцей. А на месцы вёскі засталіся толькі абгарэлыя коміны печак. За гады акупацыі ў Пружанскім раёне падобная горкая доля спасцігла 13 вёсак. У другой сусветнай загінула каля дваццаці тысяч пружанцаў.**

*ВЫСТАВЫ*

### КНІГІ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ

**Нацыянальная кніжная палата Беларусі правяла чарговую штомесячную выставу кніг беларускіх выдавецтваў.**

**На гэты раз экспазіцыя складалася з 372 экземпляраў кніг і брашур, выпушчаных у снежні 1993 года як дзяржаўнымі, так і камерцыйнымі кнігавыдавецтвамі. Усяго ж за ўвесь 1993 год было выдадзена 2 926 назваў кніг агульным тыражом 98,3 мільёна экземпляраў. З іх 786 назваў кніг тыражом 18,4 мільёна экземпляраў на беларускай мове, што на 43 працэнты па назве і на 53 працэнты па тыражы больш, чым у 1992 годзе.**

*АВАРЫІ*

### ВАГОНЫ СЫШЛІ З РЭЕК

**Адбыліся дзве буйныя аварыі. 23 студзеня 1994 года каля населенага пункта Хлусава, што недалёка ад Оршы, з-за няспраўнасці рухомага саставу з рэек сышло 8 цыстэрнаў з мазутам. Адна з іх загарэлася, 6 аказаліся пашкоджанымі, з іх вылілася па абодва бакі чыгункі каля 300 тон мазуту. Прычынай аварыі стала, відаць, рэзкае тармажэнне ўсяго саставу, якое адбылося з-за таго, што ў 41-м вагоне загарэлася букса.**

**У Віцебску аварыя адбылася на суткі пазней. У 7 гадзін 30 хвілін 24 студзеня 1994 года пры руху грузавога поезда Віцебск -- Невель у межах горада на павароце сышлі з рэек 12 вагонаў, з якіх 3 кантэйнеры з калійнай соллю толькі нахіліліся, а астатнія 8 вагонаў і цыстэрна перавярнуліся і атрымалі пашкоджанні.**

*ПРЫЗНАННЕ*

### ВАСІЛЬ СТАРАВОЙТАЎ – ГАНАРОВЫ АКАДЭМІК

**На Вучоным савеце ў Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняты ў ганаровыя акадэмікі Васіль Старавойтаў, былы старшыня калгаса, а зараз кіраўнік акцыянернага таварыства "Аграпрамысловае аб'яднанне "Рассвет". Цяперашні "Рассвет", у адрозненне ад многіх іншых гаспадарак рэспублікі, — мультымільянер.**

*ДЫПЛАМАТЫЯ*

### КОНСУЛЬСТВА Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

**З 1 лютага ў Даўгаўпілсе пачне працаваць Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Латвіі, рашэнне аб адкрыцці якога прынята Вярхоўным Саветам рэспублікі 17 студзеня. Па ўзгадненню з урадам Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску пачне дзейнічаць консульства Латвіі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ТОЛЬКІ ў 1996 годзе пачне павышацца жыццёвы ўзровень народа, і ў пачатку новага тысячагоддзя ён перасягне на 22--25 працэнтаў узровень 1995 года. А 95-ты -- гэта год, калі будзе прыпынены спад вытворчасці ў Беларусі. Такія прагнозы нашага Інстытута Дзяржэканомплана.

АПУБЛІКАВАНЫ два ўказы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 13 студзеня 1994 года. Адным з іх новым Пастаянным прадстаўніком рэспублікі пры ААН прызначаны Аляксандр Сычоў. Другім -- Генадзь Бураўкін вызвалены ад абавязкаў Пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ААН. Па неафіцыйных звестках, Г. Бураўкін мае ўзначаліць Міністэрства культуры Беларусі.

ПАСЛЯ арышту літоўскімі спецслужбамі ў Мінску былых лідэраў кампартыі Літвы М. Буракявічуса і Ю. Ярмалавічуса няўтульна адчуваюць сябе іншыя палітэмігранты. Як высветлілася з ананімнага інтэрв'ю газеце "Советская Белоруссия", такіх асоб, якія хаваюцца ў Беларусі ад літоўскіх спецслужбаў, яшчэ дзевяць.

ПА КОЛЬКАСЦІ банкаў на душу насельніцтва Беларусь займае адно з вядучых месцаў у Еўропе. На адзін банк у нас прыпадае 3 050 чалавек. Для параўнання: у Германіі -- 1 400, у Вялікабрытаніі -- 2 700, у Італіі -- 3 500 жыхароў абслугоўвае адзін банк.

НА ПРАЦЯГУ 1993 года цэны на тавары і паслугі выраслі ў Беларусі ў 13,1 раза. Што датычыцца 1994 года, то цэны будуць паводзіць сябе больш "ліберальна" — ад студзеня па снежань яны вырастуць толькі ў 4,3--4,5 раза.

ШКОЛЫ, ліцэі, гімназіі, каледжы зацікаўлены, каб да іх ішлі выкладаць кандыдаты навук. Але даплата за званне складае ўсяго... 30 рублёў. Крыху больш цэняцца настаўнікі "заслужаныя" і "народныя". Іх даплата за ганаровае званне ацэньваецца адпаведна ў 60 і 100 рублёў.

МІТРАПАЛІТ Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі сустрэўся з кіраўніцтвам Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Адбылася гутарка аб ролі Праваслаўнай царквы ў духоўным жыцці краіны. Уладыка Філарэт расказаў аб рабоце па ўвядзенню ў царкве беларускай мовы. У завяршэнне сустрэчы ён падарыў лідэрам БЗВ вялікі камплект царкоўнай літаратуры.

АБРАБАВАНЫ мемарыяльны комплекс "Дальва", што непадалёк ад Хатыні. Вёска была спалена немцамі 19 чэрвеня 1944 года ды так і не адрадзілася. І вось у студзені 1994-га прагныя да нажывы сучасныя камерсанты паздымалі з помніка-мемарыяла ўсе бронзавыя пліты і медныя дэталі.

*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

## ГРУГАН ГРУГАНУ ВОКА НЕ ВЫДЗЕЎБЕ. АЛЕ Ж ПЕР'Е ЛЯЦІЦЬ...

Вось нарэшце і ў народных выбраннікаў скончыліся калядныя канікулы, працягласць якіх вызначалася, дарэчы, выключна воляй і жаданнем саміх дэпутатаў (у адрозненне ад вымушанага навагодняга "адпачынку" рабочых на многіх буйных прадпрыемствах Беларусі). Якія ж праблемы чакалі дэпутацкай увагі ў першую чаргу? Напачатку прыярытэтным здавалася славутае аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі. На справе аказалася інакш. Сітуацыя з аб'яднаннем "зайца" і рубля ўсё больш нагадвае беларускі варыянт "мыльнай оперы" на палітычнае лібрэта. У пэўныя моманты развіцця сюжэта, калі па логіцы падзей набліжаецца развязка, раптоўна ў інтрызе завязваецца чарговы вузельчык -- і "працяг будзе". Так і тут. Ужо гучна абвяшчаецца, што справа практычна завершана і другое прышэсце рубля з дня на дзень выратуе шматпакутныя кішэні беларуса ад хранічнай пустаты, што Расія гатова прыняць неразумную малодшую сястру Беларусь у свае абдымкі, як раптам... У пацвярджэнне вядомага пастулата, што крайнасці звычайна зыходзяцца, ва ўнісон з беларускай апазіцыяй супраць аб'яднання выступілі ўплывовыя расійскія палітыкі і прэса. Але ў той момант, калі гэта хваля расійскага супраціўлення аб'яднанню пачала нарастаць, галоўныя апаненты прэм'ера В.Чарнамырдзіна Я.Гайдар і Б.Фёдараў падалі ў адстаўку са сваіх высокіх пастоў. Здаецца, развязка чарговы раз замаячыла на гарызонце -- ніхто ўжо не ў стане рэальна перашкодзіць аб'яднанню ні з аднаго, ні з другога боку. Але... Аднаўляецца работа сесіі парламента ў Мінску, і ўвага народных выбраннікаў канцэнтруецца на падзеях, звязаных з выдачай Літве былых літоўскіх камуністычных лідэраў Буракявічуса і Ярмалавічуса, і ўсё астатняе адступае на другі план. Мала таго, нечакана разгараецца сапраўдны палітычны скандал, калі ўжо ўсе злабадзённыя праблемы сваёй уласнай краіны -- як накарміць народ, правесці веснавыя палявыя работы, дзе ўзяць лекі для хворых -- здаюцца дэпутатам мізэрнымі і не вартымі іхняй высокай увагі. Іншая справа -- "разабрацца" з міністрам унутраных спраў, старшынёй КДБ ды пры тым так увайсці ў смак "разборак", што не мець моцы спыніцца на працягу тыдня.

У нашым парламенце склаўся класічны любоўны трохвугольнік: парламент -- урад -- народ, дзе, як вядома, нехта абавязкова павінен быць лішнім. Хто ж лішні ў даным выпадку, -- няцяжка здагадацца. А наконт астатніх: мілыя сварацца -- толькі цешацца. Глядзіш на ўвесь гэты парламенцкі вэрхал і не разумееш, што ж усё-такі ў галаве і на сэрцы нашых шаноўных народных выбраннікаў? Пра што іхні дзяржаўны клопат? Адно ясна: не пра нас з вамі. Што тут яшчэ казаць, калі ў сённяшніх амаль катастрафічных сацыяльна-эканамічных варунках адзін з дэпутатаў, напрыклад, выходзіць на парламенцкую трыбуну, каб выказацца наконт таго, як асвятляла беларускае тэлебачанне візіт Біла Клінтана, а яго калега бярэ слова, каб абвясціць, што яны з сябрамі стварылі яшчэ адно "выратавальнае" дэпутацкае аб'яднанне. Сапраўды, не адставаць жа ад іншых! А каб ніхто не перашкаджаў дэпутацкай "тусоўцы", прэсу з залы -- вон, ніякіх трансляцый і паведамленняў: не з вашым, маўляў, розумам. А ў той час цэны ў крамах даўно нагадваюць вар'ятаў, якім не хапіла ўціхамірвальнай кашулі, курс долара, што ўплывае на ўсе сферы эканомікі, таксама скача ўверх, як ненармальны, а курс абмену пры ўсё ж такі мяркуемым аб'яднанні грашовых сістэм, здаецца, не ведае нават беларускі прэм'ер, і ў выніку абывацель, акрамя стомы, не адчувае ўжо нічога, нават злавацца не засталося сіл. І тут у нашай парламенцкай "мыльнай оперы" назіраецца новы сюжэтны паварот, накшталт: "Марыя чакае дзіця". Дык вось, беларускі парламент чакае новага старшыню. Мабыць хутка разродзіцца, хаця роды хутчэй будуць цяжкімі.

А здарылася тое, што агульнымі намаганнямі ў парадак дня сесіі чарговы раз быў уключаны пункт аб даверы старшыні Шушкевічу і прэм'еру Кебічу. Здавалася б, добра знаёмы пасаж. Але не, зараз сітуацыя абяцала ў сцэнарыі змены, але змены лёгка прадказальныя. Яшчэ да таго, як дэпутаты з бюлетэнямі пайшлі ў кабіны для галасавання, было зразумелым: лёс Станіслава Шушкевіча як старшыні вырашаны, таксама, як было відавочным, што для Вячаслава Кебіча, нягледзячы на ўсю парламенцкую буру, рэальнай пагрозы, як і раней, не існуе. Чаму ж усё-такі Шушкевіч 209-ю галасамі "за" быў адкліканы са сваёй пасады? Прычын шэраг, але галоўная з іх, мне здаецца, яскрава высвецілася падчас яго апошняга выступлення. Менавіта яно яшчэ раз засведчыла, што парламент і старшыня размаўляюць на розных мовах, і, на жаль, большасці дэпутатаў мова старшыні чужая. Так, магчыма, пытанне аб замене старшыні ўжо і наспела, але так развітвацца з Шушкевічам, як зрабіў гэта наш парламент з падачы А.Лукашэнкі, сорамна. Нягледзячы на ўсе старшынёўскія пралікі і недахопы, Станіслаў Станіслававіч варты не ганьбы, а падзякі, ужо хаця б за тое, што перад сусветнай супольнасцю беларускую дзяржаву прадстаўляў чалавек выдатна адукаваны, сапраўдны інтэлігент з яўна выражанымі гуманістычнымі поглядамі.

На прэс-канферэнцыі пасля прыняцця адстаўкі С.Шушкевіча дэпутат В.Ганчар выказаў думку, што цяпер нарэшце ў парламенце скончацца палітычныя гульні і ніхто не будзе замінаць дэпутатам (атрымліваецца, што галоўная перашкода існавала ў асобе былога старшыні?) працаваць і паспяхова вырашаць усе надзённыя праблемы жыцця. Карацей, галоўны "злодзей" пераможаны, і шчаслівая развязка блізка. Але ці не абернецца зноў абяцаны "happy end" 2001-й мыльнай серыяй?

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## САДЫ БЕЛАРУСІ: ЯКІЯ ЯНЫ?

# НЕ ЎСЁ ТОЕ ЗОЛАТА...

ЛЕТАСЬ у канцы жніўня вяртаўся на аўтобусе з Маладзечаншчыны. Шлях ляжаў праз вёскі, хутаркі. З цікавасцю ўглядаўся ў акно, амаль ля кожнай хаціны быў сад. Год мінулы выдаўся ўраджайны: пад цяжарам спелых пладоў згіналіся да самай зямлі галіны дрэў.

-- Колькі яблыкаў! -- сказаў я ўслых, каб прыцягнуць да размовы свайго спадарожніка, сталага ўзросту мужчыну. Той ахвотна прыняў выклік. Але адразу ўдакладніў:

-- Раней было значна больш...

Ну, падумалася мне, папаў на старога буркуна. Пачне даказваць, што некалі і вада была макрэйшая.

-- Я маю на ўвазе не колькасць пладоў, а разнастайнасць гатункаў, -- удакладніў мой спадарожнік, -- дзве-тры хаты, і зноў адзін і той жа сорт. Хіба гэта сады?

Мой субяседнік меў рацыю. Успомнілася дзяцінства.

...З 1940 па 1954 год гарадскі пасёлак Любча на Гродзеншчыне быў раённым цэнтрам. Меў ён свае хлебакамбінат, сырзавод, ільно- і зернепрыёмныя пункты... Але асабліва гэты адміністрацыйны цэнтр славіўся адметным рынкам. У адным кутку прадавалі толькі птушку, у другім -- жывёлу, у трэцім -- гародніну. Там, дзе прадаюць кароў, не будзе коней, а калі прадаюць курэй, то не сустрэнеш побач гусей.

Асобны куток аддаваўся садавіне. Яе было многа. Ды яшчэ якой! Ніводзін гаспадар не дазволіць сабе з"явіцца на рынку з палукашам непрывабных для вока або нясмачных пладоў. Няхай лепей прападуць.

...Год выдаўся засушлівы. Бацькі жалі жыта ля хутара Максіма Емяльянчыка. Скончылася вада ў збанку. І мы з бацькам накіраваліся да хутара.

За высокім драўляным плотам рос вялікі сад. Асабліва ўражвалі яблыні, голле якіх абцяжарвалі чырванабокія плады.

-- Час у Любчу збірацца, жыта ж ужо сваё зжаў, -- сказаў бацька Емяльянчыку, кіўнуўшы галавой у бок саду.

-- Не будзе, Іван, сёлета гандлю, -- нявесела адказаў гаспадар хутара, -- не дагледзеў у свой час дрэвы, чарвякі яблыкі папсавалі.

Я ўглядаўся ў плады і нічога такога на заўважаў: яблыкі былі буйныя, спелыя і, мне здавалася, вельмі прывабныя.

Але гонар і слава лепшага садаводааматара ў сваёй акрузе для Емяльянчыка важней за ўсякія грошы.

...Звычайна да паўдня рынак у Любчы заканчваўся, гандляры раз"язджаліся. Але не ўсе. Самыя вядомыя садаводы раёна выходзілі за агароджу на лужок. Кожны нёс па кошыку ўласных яблыкаў ці груш. Пачыналася гульня, якая прыйшла ў нашы мясціны з даўніх часоў. Насіла яна простую назву "Яблычка".

Спачатку выбіраліся суддзі, звычайна па аднаму чалавеку з куста і банкір. Пасля ўдзельнікі гульні ўносілі немалыя грошы банкіру. Па жэрабю кожны ўдзельнік атрымліваў нумар. Яму суддзі нацягвалі на вочы кепку, каб нічога не было бачна, давалі пакаштаваць плод. Патрабавалася назваць гатунак, адкуль прывезены. І тут пачыналася самае смешнае. Здаралася, якому-небудзь іграку падсоўвалі пакаштаваць яблыка з... яго ж уласнага саду, а той, адкусіўшы кавалачак, пачынаў бажыцца, што ніколі такога яблыка не еў.

Гульня, якая збірала шмат і ўдзельнікаў, і гледачоў, дастаўляла нямала радасці аматарам жартаў, гумару.

Прайграўшыя вялі пераможцаў і суддзяў у мясцовую сталоўку, дзе за кубкам піва ці кілішкам гарэлкі вялася гутарка аб тым, як вырасціць добры сад, вывесці новы гатунак фруктовых дрэў, чым іх апырскваць, каб не заводзіліся шкоднікі.

Праўда, нешта сваё, фірменнае, трымалася і ў сакрэце. У адным выпадку з-за нейкіх забабонаў. Лічылася, напрыклад, што нельга расказваць нікому аб тым, як вырасціць лепшыя гатункі пладовых дрэў, бо гэта прынясе гаспадару няўдачу, ураджайнасць пяройдзе да суседа. І таму не хацелі частаваць нават блізкіх людзей спелымі пладамі, тым больш прадаваць саджанцы. Гэтыя гатункі яблык ці груш гаспадары стараліся не рэкламаваць у сваіх мясцінах, везлі прадаваць далёка ад дому.

Добры сад даваў і значны прыбытак сям"і. За адзін чамадан прададзеных груш садавод-аматар прывозіў з Баранавіч абутак сабе, жонцы і сыну. Зборы садаводаў, што везлі прадаваць яблыкі, грушы, і вяртанне былі падзеяй для ўсёй вёскі. Шляхі гандляроў фруктамі не абмяжоўваліся гарадамі Беларусі. Іх бачылі ў Ленінградзе і Ноўгарадзе, Рызе і Пскове.



Адзін з самых старых, як лічаць, у рэспубліцы садоў размешчаны пад горадам Высокае, што ў Камянецкім раёне. Ён быў пасаджаны яшчэ ў мінулым стагоддзі побач з маёнткам графа Патоцкага, шырока вядомага ў той час магната і адначасова аматара-садавода. Тут ёсць яблыні ва ўзросце 100--120 гадоў. Ніхто ўжо дакладна не ведае, якіх яны гатункаў. Але тое, што ўраджай яны даюць амаль кожны год, і тое, што на смак перавышаюць некаторыя цяперашнія гатункі, у акрузе ведаюць многія. Штогод тут збіраюць 60--80 тон пладоў. Яблыкі трапляюць на стол жыхароў Высокага, навакольных вёсак. А замацаваны сад за калгасам "Дружба".

НА ЗДЫМКУ: каля стогадовай яблыні садаводы Валянціна САХАРУК (справа), Эмілія МАНЧАК і Вера ГАРЧАНЮК (увосень мінулага года).

Фота Эдуарда КАБЯКА.

Вярталіся гандляры не толькі з пакупкамі і кішэняй грошай, але і з рознымі навінамі. Тады ў пэўнай хаце збіралася ледзь не ўся вёска, каб паслухаць садаводаў аб падзеях "у вялікім свеце".

З арганізацыяй калгасаў гандлярства прыйшло ў заняпад, як прыйшло ў заняпад і само садаводства. Селянін, атрымаўшы ўсяго трыццаць дзве соткі зямлі, стаяў перад выбарам: садзіць бульбу ці вырошчваць сад. Вядома, бульба была важней. Вось і пачалі высякаць фруктовыя дрэвы. Становішча абвастрыла пастанова ўрада былога СССР аб вялікіх падатках на сады.

З-за такой палітыкі былі беззваротна знішчаны каштоўнейшыя гатункі сліў, яблыкаў, груш, выведзеных беларускімі садаводамі-аматарамі. А старыя сады, што ўцалелі і дзе яшчэ захавалася нешта сваё, мясцовае, можна пералічыць па пальцах.

Справа дайшла да таго, што Беларусь з экспарцёра ператварылася ў імпарцёра садавіны. Розныя ларкі, латкі, рынкі літаральна запаланілі слівы з Венгрыі, яблыкі з Польшчы і Румыніі. А калі і з"яўляліся на гандлёвых радах фрукты мясцовыя, то яны значна ўступалі імпартным -- па смаку, велічыні, вонкаваму выгляду.

...Там часам мой "маладзечанскі" спадарожнік працягваў пачатую размову. Нядаўна, казаў ён, прыйшлося пабываць на Камароўскім рынку. Прывяла сюды не проста цікаўнасць. Задумаў ён закласці ў сваім калгасе сад і гадавальнік. Вось і прыехаў у Мінск, як ён сказаў, пашукаць матэрыял.

-- Бачу, -- казаў мой спадарожнік, -- жанчына прыгожыя яблыкі, не горш за каўказскія, прадае. Вось, думаю, спытаю, адкуль яны, дамоўлюся прышчэпачку ўзяць. Жанчына наззала сваё прозвішча -- з Бялыніч, дае кавалачак яблыка пакаштаваць. "Малінаўка", -- гаворыць. А на самай справе гэта не "малінаўка": нешта ёсць ад ранеткі, нешта ад штрыфеля. Адразу адпала ахвота пра сустрэчу дамаўляцца. Прайшоў многіх гандляроў і чыстага гатунку амаль не сустрэў -- адны мяшанцы. Калі ж было нешта накшталт антонаўкі, то ўжо здзічэлая.

Не лепей і з саджанцамі. Некалькі гадоў назад мае знаёмыя дачнікі купілі на рынку ў Гродне два дрэўцы. Прадавец запэўнівала, што гэта саджанцы "папяроўкі" ("белы наліў"). Дачакаліся першых пладоў, і высветлілася: не "папяроўка", а нешта падобнае на летнюю антонаўку...

-- Шляхам селекцыйнага адбору, -- заўважыў садавод, -- хачу адрадзіць славу беларускіх садоў, тых, якія некалі ведалі далёка за межамі рэспублікі.

Намер добры. Але, падумалася, не пад сілу гэта аднаму, ды нават і некалькім аматарам. Адраджаць беларускія сады трэба калектыўна. Умовы для гэтага ёсць: прыгодныя землі, створаныя вучонымі-селекцыянерамі новыя перспектыўныя гатункі, сярод якіх выгадна вызначаюцца сваімі якасцямі яблыкі "мінскія", "бананавыя", "залацістыя". На жаль, іх можна ўбачыць толькі на кірмашах. А калгасаў і саўгасаў, што займаюцца садаводствам, вельмі мала: саўгас "Зубкі" і калгас "Клецкі" на Міншчыне, калгасы "Навасёлкаўскі" і імя Леніна на Гродзеншчыне.

Мусіць, доўга яшчэ на нашых рынках, у магазінах будзем мы набываць яблыкі, грушы, слівы, прывезеныя з Польшчы і Венгрыі, Балгарыі і Малдовы, плаціць за кожны кілаграм у два-тры разы даражэй, чым маглі б плаціць за ўласныя.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

## НЕ НА ЧУЖЫМ БЕРАЗЕ

# ДЗЯТЛАЎСКІЯ РАДОНАВЫЯ ВОДЫ

Нядаўна непадалёку ад горада Дзятлава на Гродзеншчыне адкрыўся новы ў Беларусі санаторый "Радон". Што ён уяўляе сабой, якія тут умовы для лячэння?

Разам з галоўным урачом здраўніцы ідзём па лячэбнай установе.

-- Я лічу, не толькі мы, медыкі, а і грамадзяне ўсёй Беларусі маюць падставу радавацца, што атрымалі такі цудоўны санаторый, -- гаворыць Мікалай Мазур, -- у маляўнічым месцы, дзе рака Паніква ўпадае ў Моўчадзь, побач з крыніцамі лячэбнага радону, гаючым лесам. Тут створана сістэма штучных азёр. Наступным летам яны дагледжанымі пляжамі сустрэнуць нашых пацыентаў.

Нядаўна калектыў прыняў першых хворых. Гэта была, будзем мовіць так, пробная эксплуатацыя здраўніцы. На лячэнне ў аддзяленне захворванняў апорна-рухальнага апарату прыехалі людзі з Мінска, Масквы, Калінінграда і іншых мясцін. Нас у першую чаргу цікавіла, як пойдзе лячэбны працэс, як наладзім харчаванне і адпачынак курортнікаў: вядома ж, які зараз час. Але перыяд станаўлення пачаўся нармальна, асаблівых праблем не ўзнікла. Тыя, хто прайшоў курс лячэння, паправіўшы сваё здароўе, выказалі задавальненне і шчырую ўдзячнасць. Акрамя названага вышэй, адкрываюцца аддзяленні нервовых і гінекалагічных захворванняў. Санаторый мае магчымасць прыняць на лячэнне за адзін заезд звыш 400 чалавек. Большасць палат двухмесныя. Ёсць адзіночныя нумары і люксы. Апошнія ўяўляюць сабой рабочы кабінет, гасцёўню і спальню. Як гаворыць сама назва санаторыя, галоўнае лячэнне тут -- радонавыя ванны. Сваю ролю ў аздараўленні адыгрываюць гразелячэбніца, фізіятэрапеўтычныя працэдуры і разнастайныя масажы, плавальны басейн, неабходныя лякарствы. Лекаў, айчынных і імпартных, закупілі больш як на 2 мільёны рублёў. Атрымалі і гуманітарную дапамогу з Германіі. Для гразелячэння пакуль карыстаемся сапрапелямі, завезенымі з возера Судобль, што ў Мінскай вобласці. Іх хопіць ажно да вясны. А затым пяройдзем на свой гаючы глей. Яго ўдосталь у возеры каля вёскі Погіры.

Хочаш жыць -- умей круціцца. Давялося шмат паездзіць, шукаючы патрэбныя матэрыялы для аддзелкі. Набывалі ў Грузіі, Арменіі, Самаркандзе. Затое цяпер будынак у граніце, мармуры, крышталі, каштоўных пародах дрэва.

Сёння галоўнай задачай для нас застаецца далейшае ўмацаванне лячэбна-тэхнічнай базы, -- падкрэслівае Мікалай Мазур. -- Пачалі дзейнічаць кабінеты гінекалагічных арашэнняў, кантрастныя ванны, плавальны басейн, кабінет падводнага выцяжэння і г.д. Завезена дастаткова самай сучаснай лячэбна-дыягнастычнай апаратуры. У прыватнаці, ужо адкрыты кабінет УЗІ-дыягностыка -- апарат фірмы "Ташыба". Куплена сучасная клініка -- біялагічная лабараторыя, апарат гукавой фунапунктуры, шмат іншага медыцынскага абсталявання. Так, у Злучаных Штатах Амерыкі набылі два спецыяльныя лічыльнікі фірмы "Хонвел" для вызначэння ўтрымання радону ў паветры.

Галоўны ўрач санаторыя заначыў, што ў 90-х гадах працягваліся пошукі радонавых мінеральных водаў у Рэспубліцы Беларусь. Зроблены свідравіны каля горада Нясвіжа, пасёлка Парэчча Гродзенскай вобласці, а таксама ў трох кіламетрах ад гарадскога пасёлка Наваельня (так званае "дзятлаўскае месцараджэнне"). Апошняе даволі багатае на залежы радонавай вады. У сувязі з гэтым аб'яднанне "Беларуськурорт" рыхтуе дакументацыю на будаўніцтва санаторыя "Белая Русь" на 1 200 месцаў, які будзе працаваць на радонавых водах "дзятлаўскага месцараджэння".

**Іосіф ЗАЯЦ.**

# ГУСІ НАС РАТУЮЦЬ

На Гомельшчыне прынята рашэнне стварыць у кожным раёне буйныя фермы па гадаванню гусей. А прыйшлі да такой думкі мясцовыя ўлады, вывучыўшы вопыт калінкавіцкага калгаса "Іскра", дзе гусі сталі значнай крыніцай папаўнення мясных рэсурсаў. Да таго ж, паводле даных Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскагаспадарчай радыялогіі, у гусіным мясе не назапашваюцца радыенукліды. Яно з'яўляецца найбольш экалагічна чыстым, што немалаважна для вобласці, значная частка тэрыторыі якой пасыпана радыеактыўным попелам.

## БОЛЬШ ВЯДОМЫ НА ЧУЖОЙ ЗЯМЛІ

# ЗАБЫТЫ НАПАЛЕОН ОРДА

ЯГО ІМЯ на радзіме аказалася амаль што забытым, а фамільны склеп, дзе ён пахаваны, знішчаны. Мясцовыя ўлады вырашылі пабудаваць на месцы старых польскіх могілак, што ў Янаве, школу. Частку надмагільнай пліты са звычайнага пясчаніку, на якой буйнымі, у разбіўку, літарамі было напісана: "Напалеон Орда", урававаў былы настаўнік Огаўскай васьмігодкі Барыс Вайцэховіч. Надпіс на пліце не быў закончаны: без года нараджэння — "7/19 лютага". Нядаўна пліта была знойдзена ў вёсцы Огава Іванаўскага раёна. Гаспадарам яна дасталася разам з хатай пасля смерці далёкага сваяка.

Аляксандр Курыловіч патэлефанаваў у музей беларускага Палесся, што ў Пінску, паведаміў аб знаходцы, а потым разам з шафёрам пагрузіў пліту ў машыну і даставіў у музей.

* * *

Каля двух месяцаў у Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі працавала выстава літаграфій з малюнкаў Напалеона Орды. Да гэтай пары яны захоўваліся ў запасніках Нацыянальнага музея гісторыі і культуры. Усяго ў Мінску захоўваецца 60 літаграфій з яго работ, але на выставе ў Брэсце экспанавалася толькі 43.

Архітэктурныя пейзажы, выкананыя з дакументальнай дакладнасцю ў жанры літаграфіі, -- гэта магчымасць здзейсніць экскурсію па гарадах і вёсках Беларусі, Польшчы, Украіны стагадовай даўнасці, дакрануцца да вытанчанай архітэктуры і дойлідства палацаў, замкаў, большасць з якіх зараз разбурана.

Нарэшце беларускай культуры вяртаецца імя суайчынніка, які стаў на чужой зямлі больш вядомым кампазітарам, піяністам, мастаком, чым на сваёй радзіме. Родам ён з Варацэвіч, што на Брэстчыне. У цэнтры Пінска захаваўся дом яго дзеда -- Матэвуша Бутрымовіча, дзе заўжды зімой жыў Напалеон Орда.

Але гэта не першая для Брэстчыны выстава яго работ. З даваенных паступленняў у пінскім музеі захоўваюцца адзінаццаць літаграфій, чатыры з якіх пастаянна экспануюцца.

На рахунку вялікага майстра больш дзвюх тысяч малюнкаў (але найбольш вядомыя захоўваюцца ў музеях Польшчы, Беларусі, Літвы -- 1 001 работа Н. Орды), выкананых ім у час знаходжання ў Польшчы і за мяжой.

Творчасць Н. Орды была цесна звязана з мастацкім жыццём Еўропы. Пачынаючы з 1831 года, Орда падарожнічае па Аўстрыі, Італіі, Швейцарыі, а завяршае падарожжа ў Парыжы. Асеўшы ў сталіцы Францыі, бярэ ўрокі музычнай творчасці ў Ф. Шапэна, з якім яго лучыла моцная дружба. Тут жа, у Парыжы, Орда выдае музычны альбом, увесь даход ад якога ахвяруе на дапамогу бедным эмігрантам з Беларусі. Па парадзе Ф. Шапэна выдаў таксама свае фартэпіянныя творы, якія карысталіся нязменным поспехам.

Перапіска двух кампазітараў захоўваецца ў Шапэнаўскім цэнтры.

Якім бы цікавым і насычаным ні было творчае жыццё Н. Орды, але яго цягнула дамоў. Прайшло 25 гадоў на чужой зямлі, і ў 1856-м ён вяртаецца на радзіму — у родныя Варацэвічы. Яго камерцыйныя планы — адкрыць фабрыку па вытворчасці сельскагаспадарчага інвентару — цярпяць фіяска. Але палеская зямля спрыяе рознабаковаму таленту майстра. У Варшаве выдаецца "Граматыка музыкі", выходзяць шэсць альбомаў літаграфій некаторых губерняў Беларусі і Польшчы. Напалеон Орда засноўвае імянную стыпендыю для навучэнцаў Пінскага рэальнага вучылішча. Ён быў піяністам, кампазітарам, тэарэтыкам музыкі, блізка ведаў гігантаў еўрапейскай культуры А. Міцкевіча, Ф. Шапэна, Ф. Ліста.

Аб'ехаўшы паўсвету і замаляваўшы ўбачанае, асноўныя сілы душы, талент рысавальшчыка майстра архітэктурных пейзажаў Напалеон Орда ўсё ж аддаў родным мясцінам. Апошнія без малога тры дзесяцігоддзі жыцця Орда прысвяціў замалёўкам архітэктурных помнікаў, гістарычных мясцін Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы. З наступленнем вясны і да позняй восені ці пешшу, ці на маленькім вазку, запрэжаным адным канём, пераязджаў ён ад замка да невялікай, пад саламянай страхой хаціны, папаўняючы асабісты своеасаблівы культурна-гістарычны архіў новымі дакументамі.

Чаму ж з плёну такой багатай працы на Беларусі амаль не засталося арыгінальных твораў Н. Орды?

Памёр Напалеон Орда ў Варшаве, а быў пахаваны ў фамільным склепе ў мястэчку Янава. Праз тры гады пасля смерці яго сваякі з Пінска перавезлі 970 работ у музей Кракава. Трыццаць работ Орды ёсць у музеі Варшавы, сустракаюцца ў Львове, Вільнюсе.

З кожнага малюнка Орды мы адкрываем архітэктуру пабудоў, якія ўжо не захаваліся, новыя значныя імёны ў нашай культуры, гісторыі, літаратуры. Толькі на Беларусі ім выканана больш за 200 архітэктурных замалёвак, аднаго горада Гродна -- 20 малюнкаў. І так з кожным з гарадоў, дзе ён бываў. Дзякуючы яму, захаваліся відарысы і пейзажы шматлікіх помнікаў культавага дойлідства -- Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку, Барысаглебскай (Каложскай -- XII стагоддзе) у Гродне і Навагрудку, манастыроў Ляшчынскага пад Пінскам, Базыльянскага ў Жыровіцах (Слонімскі раён), мноства касцёлаў, замкаў (у Міры -- XIV--XV стагоддзі), Камянецкай вежы, да рэстаўрацыі больш вядомай у народзе, як Белая вежа, і многіх іншых.

У Польшчы сабраны багаты матэрыял дакументальнага характару ў выглядзе яго замалёвак, звязаных з польскай гісторыяй і культурай. Акрамя дакументальнай каштоўнасці, работы вызначаюцца выдатным выкананнем акварэльнага жывапісу.

Малюнкі Орды акварэллю былі прызначаны для альбома літаграфій, які быў выдадзены ў васьмі серыях у 1873--1883 гадах. У альбом, які меў назву "Альбом гістарычных відаў: Мінск -- Варшава", увайшло 260 малюнкаў. Малюнкі і акварэлі, па якіх выконваліся гэтыя літаграфіі, у большасці сваёй не захаваліся.

Упершыню работы, што не ўвайшлі ў альбом літаграфій, былі паказаны на выстаўцы архітэктурных пейзажаў польскага жывапісу (1870--1880 гадоў), наладжанай у нацыянальным музеі Варшавы ў 1964 годзе.

Трапна адзначыла дырэктар пінскага музея беларускага Палесся Р. Маргуліна ў мясцовым друку, гаворачы аб выратаванні надмагільнай пліты: "Добра, што ў розныя часы, пры розных абставінах знаёмыя і незнаёмыя паміж сабою людзі не далі патухнуць агеньчыку памяці аб мінулым нашай культуры. Б. Вайцэховіч урававаў надмагільную пліту, супрацоўнікі Іванаўскай раённай бібліятэкі сабралі і зрабілі даступным матэрыял аб таленавітым земляку, А. Курыловіч паклапаціўся, каб знайсці для пліты надзейнае сховішча і г.д.

Не хапае толькі аднаго, каб лічыць гэтую гісторыю закончанай. Неабходны помнік на месцы, дзе быў пахаваны Н. Орда. Фрагмент надмагільнай пліты ў тым выглядзе, у якім ён дайшоў да нас, не можа сам па сабе напамінаць і праслаўляць слаўнага сына Брэстчыны".

Да таго, як была знойдзена надмагільная пліта, днём нараджэння Напалеона Орды лічылася 11 лютага, хаця на самай справе 7 лютага...

З забыцця вяртаецца імя і шырокая палітра творчасці Напалеона Орды. Больш чым праз стагоддзе вяртаецца яго імя на радзіму. Ужо і ўлады не тыя, гэтыя ж плануюць стварыць музей Орды на Брэстчыне. Засталося толькі сабраць створанае гэтым таленавітым чалавекам!

**Пётр ЖЭБРАК.**



**Пасёлак з 37 прыгожых камфартабельных катэджаў узводзіцца ўздоўж Чарнігаўскай шашы ў Гомелі. Тут справяць наваселлі работнікі завода "Крышталь". Будуе катэджы сумеснае беларуска-англа-югаслаўскае прадпрыемства "Кодэк-БСК".**

**НА ЗДЫМКУ: так выглядаюць катэджы, якія яшчэ будуюцца.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ПАДАННЯЎ*

# "УСЯСЛАЎ-КНЯЗЬ УНАЧЫ ВОЎКАМ БЕГАЎ"

### ЧАМУ ЛЕГЕНДАРНАГА ПОЛАЦКАГА ЎЛАДАРА ЛІЧЫЛІ ВАЎКАЛАКАМ?

Слова "**волхв**" -- вяшчун на тэрыторыі Усходняй Славакіі працягвала адлюстроўваць надзвычай даўні ўспамін аб тым, што волахі-неўры, татэмам якіх быў воўк, раз у год ператвараліся ў ваўкоў. Ваўкалак-пярэварацень -- гэта ў пэўнай ступені вядзьмар, вяшчун. Але ж старажытнарускія валхвы з'яўляліся не проста вешчунамі, ведзьмарамі, яны ўтваралі свайго роду жрэцкае саслоўе. На наш погляд, старажытнарускія валхвы ўяўлялі сабой аналогію кельцкаму жрэцкаму саслоўю -- друідам. Кельцкія жрацы-друіды верылі ў бессмяротнасць душы, займаліся чараўніцтвам і лячэннем; пад іх апекай знаходзіліся свяшчэнныя дубовыя гаі. Гэтым жа займаліся і старажытнарускія валхвы. Яны ж прысутнічалі пры нараджэнні князя Усяслава Брачыславіча. Ці не з'яўляліся валхвы яго апекунамі і надалей, на працягу ўсяго астатняга жыцця полацкага князя? Гэта верагодна хоць бы з той прычыны, што невядомы пясняр, аўтар "Слова пра паход Ігаравы", заўважаў наступнае: Усяслаў-князь "вялікаму Хрыстосу воўкам шлях заступаў" (пераклад Яўгена Паўленкі), гэта значыць Усяслаў-князь з'яўляўся адным з найбольш паслядоўных барацьбітоў з хрысціянскай рэлігіяй.

Даследчык А. Весялоўскі ў даўнім артыкуле "Русские и вильтины в саге о Тиреке Бернском (Веронском)", надрукаваным у кнізе "Известия отделения русского языка и словесности императорской Академии Наук", адзначаў: "У векавых спрэчках Яраславічаў са Усяславічамі ёсць нешта расавае". Мы разумеем гэтае выказванне вучонага вось якім чынам.

Этнічны паток неўраў рассяляўся не толькі ўздоўж цячэння Прыпяці на ўсход (тут бачаць асноўную тэрыторыю неўраў), але і ў напрамку на паўночны ўсход і поўнач. Рымскі гісторык Аміян Марцэлін (330--400 гады новай эры) упамінаў нервіяў паблізу так званых вытокаў Барысфена. Гэтакія ж каардынаты для народа неўраў указваў і рымскі вучоны, пісьменнік і дзяржаўны дзеяч І стагоддзя новай эры Пліній Старшы. Што значыць "вытокі Барысфена"? Барысфенам называўся Днепр. Але ж яго вытокі ў мінулым атаясамліваліся з верхнім цячэннем ракі Бярэзіны. Нават у сярэдзіне XII стагоддзя на "Карце свету" Аль-Ідрысі (1154 год) вярхоўі Барысфена-Дняпра блыталіся з вярхоўямі Бярэзіны. У верхнім цячэнні Бярэзіны-Дняпроўскай мы знаходзім наступныя красамоўныя тапанімічныя факты: "**Наўры** (вёска Мядзельскага раёна), **Няровы** (вёска Валожынскага раёна), **Наровы** (вёска Міёрскага раёна), **Нурвяны**, **Нурвянцы** (вёскі Браслаўскага раёна), **Нурава** (вёска Верхнядзвінскага раёна), **Няверы** (дзве вёскі Мядзельскага раёна), **Мурмішкі** (вёска Браслаўскага раёна), **Мурамшчына** (вёска і возера Глыбоцкага раёна). Неўры-нервіі праніклі і яшчэ далей як на поўнач, так і на паўночны ўсход. Прынамсі, назва вельмі загадкавага народа старажытнарускіх летапісаў мурамы, найменне горада **Мурама**, назва горада **Кімры** паміж Цвер'ю і Пераяслаўлем-Залескім аб гэтым сведчаць. Мурама "сядзела" на ніжнім цячэнні ракі Акі, горад Мурам -- племянны цэнтр Мурамы, з ім звязана імя былінага асілка Іллі Мурамца. У сувязі з назвай горада Кімры ўспомнім найменне кельцкага племя кімвраў (гл. вышэй). Цікава, што маці Іллі Мурамца носіць імёны **Латыгорка** і **Семігорка** (параўнайце этнічныя імёны балцкіх плямён **латыгалы, латыголы** і **земіголы**). Канцавая частка гэтых этнічных найменняў — **гол, гал** — нагадвае кельцкія этнічныя імёны **галы, галаты** (апошняе імя з'яўляецца ў творах антычных аўтараў у IV--III стагоддзях да новай эры). У сувязі з найменнямі **галы, галаты** нагадаем назвы тэрыторыі **Галіцыя**, горада **Галіч**, мястэчка Салігаліч у Паўночным Заволжы, імя народа **голядзь** у басейне Акі. Голядзь у Павочны пакінула пасля сябе назвы вёсак **Галядзянка, Голядзь, Галядзінка, Голядзі, Галяюка** (Падмаскоўе, Арлоўская вобласць). Нарэшце, выклікае цікавасць найменне **прускіх галіндаў** (упершыню сустракаецца ў сярэдзіне II стагоддзя новай эры ў Пталамея). З усіх гэтых фактаў мы робім наступны вывад: у паўночнай частцы Беларусі, у паўднёва-ўсходняй Прыбалтыцы і ў басейне Акі кельцкі этнічны кампанент уступіў у кантакт з мясцовым балцкім насельніцтвам, прынамсі, найменні прускіх галіндаў, племя голядзь, а таксама народаў латыгала і земігола сведчаць аб гэтым. Праўда, рух галатаў-галіндаў на поўнач і паўночны ўсход з Прыкарпацця і Галіцыі назіраўся, відаць, у больш позні час, чым рух волахаў-неўраў.

Вернемся, аднак, да неўраў-нервіяў. Апошнія не спыніліся ў вярхоўях Барысфена-Бярэзіны, яны дайшлі да Ноўгарада, Чудскага возера і нават да ўсходняй часткі Фінскага заліва. Тут у канцы І тысячагоддзя новай эры жыло фінскае племя водзь. У назве водзь выдзяляецца старажытны корань, які мы знаходзім таксама ў найменні вацякі (старое рускае абазначэнне ўдмуртаў) і, хутчэй за ўсё, у назве... Герадотавых будзінаў, да якіх перасяліліся неўры, а таксама ў найменні бадзінаў, ці вадзінаў, якое нагадвае александрыйскі грэк Пталамей у сваім апісанні еўрапейскай Сармацыі.

Фінскі народ водзь, а таксама іншыя заходнія фіны называюцца ў летапісах чуддзю. Слова чудзь утварылася ад кельцкага абазначэння са значэннем "краіна, народ, племя". Дагэтуль у венгерскай мове захоўваецца слова "туд" для абазначэння славян, якія жывуць на тэрыторыі Венгрыі. Венгры запазычылі данае слова ў волахаў-кельтаў пасля 898 года, калі прыйшлі на свае сучасныя землі.

**Прагяг. Пачатак у № 4.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ЯШЧЭ АДНО ВЯРТАННЕ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

Споўнілася 12 гадоў, як скончылася зямное жыццё Міхала Іванавіча Забэйды-Суміцкага (14 чэрвеня 1900 г. -- 21 снежня 1981 г.). Вярнуліся на радзіму завешчаныя спеваком спаткі. Смялей і часцей стала згадвацца імя гэтага таленавітага сына Беларусі. Але шлях да радзімы ў М. Забэйды-Суміцкага быў вельмі цяжкі.

З таго часу, як ён гастраляваў на Беларусі ў 1944 годзе, М. Забэйда-Суміцкі наведаў Бацькаўшчыну толькі ў 1963 годзе. Гэта было ў апошні раз. Высокі талент (адсюль і зайздрасць), колкае слоўца спевака ў адрас бязмоўных чыноўнікаў пры культуры (чым не адкрыты, ды яшчэ з выклікам калабарыцыянізм тых "русскоязычных"?) прывёў да яўнага непрымання самой ідэі запрасіць Міхала Іванавіча на сталае жыхарства ў Мінск. Гітлераўцы валтузілі яго за прапаганду славянства, а служкі таталітарнага рэжыму травілі спевака за беларускасць, аберагаючы тутэйшых рабоў, каб у іх не ачнуліся хоць нейкія парасткі нацыянальнай свядомасці.

І вось пасля 1963 года -- больш як пяць гадоў анямелага маўчання пра Забэйду. Гэтую сцяну прабіў А. Гардзіцкі, надрукаваўшы ў "Маладосці" інтэрв'ю са спеваком ў Карлавах Варах. У 1970 годзе Рыгор Шырма ў "ЛіМе" згадаў пра 70-годдзе свайго даўняга сябра. Затым зноў за выключэннем некалькіх заметак да 75-годдзя спевака -- пячорнае замоўчванне. У 1988 годзе краязнаўца і даўні адрасат Міхала Іванавіча Мікола Плавінскі змяшчае ў "Віцебскім рабочым" свой вялікі артыкул "Беларускі салавей". Прарвалася на пачатку 1989-га. У Фрунзенскім раёне Мінска з дазволу партыйных уладаў разам з гаркамам камсамола, гасцінай імя У. Галубка быў створаны цэнтр прапаганды беларускай культуры, які правёў 11 студзеня 1989 года ў Палацы культуры літаратурна-музычны вечар, прысвечаны памяці беларускага опернага спевака М. Забэйды-Суміцкага, яго адкрыў сакратар райкома партыі А. Суша. Ушанаваць імя Забэйды былі запрошаны Я. Брыль, У. Калеснік, Б. Сачанка, Л. Дайнека і... я, выключаны ў 1974 годзе з партыі за сувязь з нацыяналістычнымі дзеячамі Л. Геніюш, М. Забэйдам-Суміцкім. Праўда, па былой завядзёнцы "Вячэрні Мінск" у сваёй справаздачы маё прозвішча не назваў (хоць я там у самыя змрочныя свае часы працаваў стылістам. Дарэчы, на гэтай пасадзе пазней мяне замяніў такі ж нацыяналіст-дысідэнт М. Прашковіч, былы навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР).

Лёд крануўся. У лютым таго ж года газета "Голас Радзімы", якая і да гэтага згадвала імя Забэйды, у двух нумарах змясціла артыкул Д. Чаркасавай "Застаўся беларусам". Годам пазней Д. Чаркасава ў "Голасе Радзімы" змясціла разгорнутую рэцэнзію "Вяртанне Забэйды-Суміцкага" пра зусім сенсацыйную падзею: студыя "Летапіс" падрыхтавала дакументальны фільм пра славутага земляка. Стужка была прымеркавана да 80-годдзя М. Забэйды, ды, як часта бывае ў такіх выпадках, крыху спазнілася. Але юбілей знакамітага спевака ўсё ж быў заўважаны. Прайшлі публікацыі ў часопісах "Мастацтва", "Роднае слова", "Беларусь", газетах "Голас Радзімы", "Віцебскі рабочы", "Чырвоная змена" на ўвесь разварот газеты змясціла фотаплакат з партрэтам Міхася Забэйды-Суміцкага. Асабліва пастараўся тыднёвік "Літаратура і мастацтва", перадрукаваўшы з беластоцкага альманаха "Белавежжа" (N 1, 1965 г.) аўтабіяграфію Міхала Іванавіча "Мастацтва за мір", змясціўшы тры лісты пра Забэйду "Мо не забудзе мяне матчын край...", нататку Г. Сурмач і эсэ Л. Дранько-Майсюка "Вандроўка ў Татры і дзве постаці спевака". Так што калі б рыхтаваць кнігу пра Забэйду, а я веру, што такая будзе калі-небудзь выдадзена, на добрую папку матэрыялаў ужо хапае. А туды ж варта далучыць вершы Н. Арсенневай, А. Салаўя, М. Танка, С. Грахоўскага, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, В. Шведа, Я. Сіпакова, цікавую перапіску з Р. Шырмам, М. Танкам... Часопіс "Маладосць", да прыкладу, змясціў лісты 17-гадовай перапіскі М. Забэйды-Суміцкага з Міколам Плавінскім з Віцебска, шчырым абаронцам нашага земляка ад навуковых віжоў. Хто перачытае ў "ЛіМе" ад 2.XI.1990 г. артыкул гэтага краязнаўца пад назвай "Беларускі салавей" у "ПС", яшчэ раз адчуе, пад якім ідэалагічным прэсам увесь час знаходілася імя эмігранта Забэйды. М. Плавінскі згадвае пра "лыжку дзёгцю" -- публікацыю В. Корзуна ў "Политическом собеседнике" (N 6, 1990 г.), дзе ва ўсім дасведчаны выкрывальнік абвінавачвае Забэйду хаця б за тое, што на яго канцэртах прысутнічалі "... в основном только прислужники оккупантов и члены их семей..." або "...праздная публика в штатском и немецкие офицеры". Я на свае вушы чуў закіды Забэйдзе падобных абвінаваўцаў у штацкім: "Гэта ж падумайце: афішы пра канцэрты Забэйды віселі на адным плоце з гітлераўскімі загадамі!" Во, аказваецца, якое злачынства ўчыніў спявак. А як назваць тады амаль поўнае вынішчэнне беларускай інтэлігенцыі, напоўненыя людзьмі курапацкія ямы? Можа ўжо і не злачынства гэта -- знішчэнне партызанскімі загонамі сваіх жа сялян-карміцеляў, якія ў нечым не дагадзілі народным "мстителям"?

Але паверым лепш самому Міхалу Іванавічу, які згадваў, што самі партызаны падчас яго канцэртаў гаварылі яму: "Спявайце больш, вельмі нам памагаеце: вы прабуджаеце волю да барацьбы за вызваленне ад акупантаў". А беларусам Латгале, з кім мне давялося гаварыць, на ўсё жыццё запомніліся Забэйдавы песні. Бо гэта была не корзунаўская "праздная" публіка, а простыя людзі, якія хацелі быць беларусамі, а Забэйда дапамагаў ім у іх стойкасці. Чаго не маглі даравацъ песняру ані гітлераўцы, ані сталіністы.

Д. Чаркасава ў сваім артыкуле "Вяртанне Забэйды-Суміцкага" ("Голас Радзімы", 14.2.1991 г.) з горыччу зазначала, спрабуючы вызначыць далейшы лёс кінафільма: "Ці не ляжа ён мёртвым грузам на праслаўтую паліцу? ...І сёння цяжка сказаць, ці адбудзецца вяртанне М. Забэйды-Суміцкага да гледача і слухача".

Слушныя разважанні. Бо Беларуская Ідэя ў Рэспубліцы Беларусь толькі абазначана. Вяртанне Беларусі ў Беларусь, як і вяртанне М. Забэйды-Суміцкага, іншых нашых славутасцяў толькі, фактычна, пачынаецца.

Таму лічу, што зусім не дарэмным будзе азнаямленне чытачоў "Голасу Радзімы" з яшчэ адным пакутнікам за Беларускую Ідэю -- Міколам Шчагловым, яго манаграфіяй пра М. Забэйду-Суміцкага.

Імя даўняга сябра Забэйды-Суміцкага Міколы Куліковіча-Шчаглова (1897--1969) таксама было выкраслена з культурнага жыцця паваеннай Беларусі. За тое, што пісаў асветніцкія артыкулы ў такіх выданнях, як "Беларуская газэта", "Новы шлях", выдаваў у акупацыйным Мінску зборнікі песняў, рабіў апрацоўкі народных песняў для канцэртных выступленняў, у тым ліку і Забэйдавых, стварыў дзве оперы на лібрэта Н. Арсенневай...

Публікацыяй работы М. Куліковіча-Шчаглова, якога С. Берасцень называе "зямным чалавекам з грэшнаю душою і чыстым, як неба, музычным талентам", мы і перад гэтым выгнанцам з радзімы хоць крыху споўнім свой доўг.

Застаецца дабавіць, што набор даследчай работы М. Шчаглова робіцца паводле тэксту, надрукаванага ў 1944 годзе ў "Беларускай газэце", якая выходзіла тыражом 80 тысяч паасобнікаў і выдавалася ў Мінску на вуліцы Рагнеды, 2. Вырашкі з гэтага выдання мне падарыў у Празе сам Міхал Іванавіч. Яны былі надзейна схаваныя ў паперах, бо дзве папкі з Забэйдавымі матэрыяламі прапалі ў 1974 годзе, мо і беззваротна. А мо і знойдуцца калі-небудзь у "сілавых" архівах, куды, відаць, трапілі з рук асабіста Хахлова, які 20 гадоў назад вёў маю справу падчас службы ў Рагачоўскай дывізіі імя Вярхоўнага Савета БССР.

Даследаванне М. Шчаглова трэба разглядаць як першакрыніцу ведаў пра спевака. Бо і сам дзядзька Міхал, напачатку інфармуючы М. Шчаглова, карыстаўся гэтай работай для напісання аўтабіяграфіі (альманах "Белавежжа", № 1, 1965 г.), для адказаў на шматлікія лісты сяброў, даследчыкаў, розных зацікаўленых людзей. І ўсе мы, хацелі ці не хацелі гэтага, паўтаралі ў нечым якраз М. Шчаглова. То хай жа гэтая крыніца забруіцца ў сваёй першатворчай напоўненасці і спатоліць смагу адраджэнцаў мацерыка нашае нацыянальнае культуры. А матэрыял М. Шчаглова як бы суправаджаюць, падсвечваюць тэксты пазнейшыя, аж да нашага часу, ствараючы пераемнасць заслужанай любові беларусаў да свайго Салаўя. І не забудзем, што гэтай самай публікацыяй ствараецца будучая кніга пра Міхала Іванавіча Забэйду-Суміцкага. Таму і запрашаем чытачоў на сааўтарства.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

**P.S.** Фотаздымкі, перадрукі вершаў, лісты, нататкі -- з архіва аўтара.

---

**Мікола ШЧАГЛОЎ**

# БЕЛАРУСКІ САЛАВЕЙ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ)

### ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Калі успамінаеш нашага слаўнага беларускага песьняра Міхася Забэйду-Суміцкага (а хто яго ведае, ня можа яго не успамінаць), дык неяк заўсёды прыходзіць на думку адна прыгожая беларуская казка, у якой, паміж іншага, ці мала рысаў нібы сумысьля вырваных з жыцьцяпісу нашага мастака. Вось колькі урыўкаў з гэтае казкі... "Быў адзін музыка... Яшчэ хлапчуком -- пасе ён валоў або коней, зробіць з лазы дудачку, ды як заграе, аж жывёла пакіне скубсьці, разьвесіць вушы ды слухае. Слухаюць яго і хлопцы, і дзеўкі з усяго сяла. Як заграе музыка на сваёй дудачцы, дык адразу сьцішацца. Здаецца, нейкая асалода уліваецца у іхныя сэрцы і нейкая сіла падхапляе іх і нясе угару, да ясных зорак, у чыстае, сіняе неба"... Ня меншае уражаньне пакідаюць і песьні Забэйды-Суміцкага, што у дзяціньсьцьве вадзіў на папас дваровых коней, а, заместа дудачкі, сьпяваў добрым дышкантам.

Сьпеў нашага песьняра я упяршыню пачуў на патэфонных плітках. Але і гэты, можна сказаць халодны, мэханічны запіс адразу сагрэў і усхваляваў маё сэрца. Потым надыйшло жывое знаёмства з песьняром. У прыватным жыцьці гэта вельмі сьціплы чалавек, уважлівы, душэўны, прыхільны да кажнага. Мілая усьмешка, пяшчотнасьць, прасьціня, карэктнасьць, роўнасьць, у дачыненькі з людзьмі, войстры пытлівы погляд, здольнасць слухаць і хутка разумець, усё гэта ня можа не зачараваць. Але, каб зразумець Забэйду-Суміцкага, як мастака, трэба мець і самому штосьці "ад мастацтва" або ад любові да творчасьці. Выпадкова мне давялося акампаніяваць сьпевам Забэйды-Суміцкага. У часе нашых пробаў і на канцэртах я адчуваў сапраўдную асалоду. Мне прыемна было сачыць за "сьвятарстваваньнем" песьняра, за сродкамі, якімі ён стварае мастацкі вобраз, які у ягоным выкананьні робіць жывымі і пачуцьцёвымі голыя, мёртвыя, друкарскія ноты. У гэты час адно, што хочацца -- адчуваць і тварыць з ім разам, жыць ягонымі думкамі і пачуцьцямі. Ужо тады, з першага знаёмства з песьняром, зарадзілася у мяне думка напісаць аб Забэйдзе-Суміцкім.

Пісалі аб ім шмат хто. Я бачыў шмат рэцэнзыяў і водгукаў аб ягоных канцэртах, але гэта былі толькі урыўкавыя, павярхоўныя нарысы, выразы асабістых поглядаў і адчуваньняў рэцэнзэнтаў. Шэраг паэтаў прысьвяцілі нашаму песьняру свае вершы, паміж імі і Н. Арсеньнева, Л. Геніюш, А. Салавей і інш. У вершах гэтых ёсьць прыгожыя паэтыцка-натхнёныя радкі, што усхваляюць "зорку нашае пляяды, як сына нашае зямлі". Аднак і у такіх прыгожых вершах яшчэ не раскрыты вобраз мастака, ды ад вершаў нельга і патрабаваць глыбокага і ўсебаковага нарысу. Гэта справа музыказнаўцы. Ёсьць толькі адзіная невялікая кніжка А. Станкевіча, якая з любоўю знаёміць нас з жыцьцём і дзейнасьцю мастака. Усё гэта яшчэ больш узмацніла маю думку аб стварэньні манаграфіі песьняра. Сустрэча з Забэйдай-Суміцкім у другі раз, сумесныя творчыя размовы, што выявілі шмат супольных поглядаў на мастацтва і вырашылі аб нашых цесных сяброўскіх дачыненьнях, дапоўнілі меру. Постаць песьняра, якога адзін з нашых дзеячоў удала акрэсьліў імем "Беларускі Салавей", вартая таго, каб аб ім было лепей і больш, чым дагэтуль, сказана. Хай і мая праца, праца музыкі унясе яшчэ адну краску у шматхварбны букет шчырых, сардэчных пачуцьцяў, якія так ахвоча падае беларуская грамадзкасьць свайму улюбёнаму і слаўнаму майстру песьні.

### РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ

**Пачатак кар'еры. Дзяцінства, юнацтва і сьпеласьць. Думкі аб будучыні.**

*"Дзе-ж ты пойдзеш*
*небарача?...*
*— ...Дзе я пайду?*
*Мілы Божа!*
*Пайду ў сьвет,*
*у бездарожжа!"*

**Паўлюк БАХРЫМ.**

*—"Адкуль, куды*
*дарога гэта?*
*Спытаўся я ў*
*хлапца той час.*
*— Дарога гэта*
*з таго сьвету*
*І проста йдзець*
*аж на Парнас!"*

**"Тарас на Парнасе".**

15 год назад, увесну 1929 году, у калектыў расейскае опэры у г. Харбіне уступае новы ягоны сябра -- тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. Гэта паважны, сьпелы, дваццаціддзевяцігадовы чалавек, які мае добрыя вакальныя дадзеныя, сцэнічную постаць, дастатковую прафэсійную падрыхтоўку. Праўда, ягоны опэрны багаж пакуль што яшчэ вельмі абмежаваны, але колькі надзеяў і мараў у гэтага імклівага сьпевака! Аднак той, хто знаёмы з умовамі жыцьця опэрных трупаў, добра ведае, як цяжка высунуцца наперад сьпеваку, які толькі што пачынае сваю кар'еру! Звычайна бывае так, што тут усё залежыць ад нейкага, найчасьцей зусім выпадковага здарэньня. Гэтак выпадкова пачынае свае выступленьні і Забэйда-Суміцкі. З прычыны выхаду з калектыву аднаго з удзельнікаў, сэзон пачынаецца опэрай "Аўген Анегін" Чайкоўскага. Новаму сябру даручаецца партыя Ленскага. Колькі радасьці тут і разам з гэтым трывогаў і клопатаў для актора, які толькі што узыйшоў на тэатральныя падмосткі! Спэктакль, свае акторскія пачуцьці, павіншаваньні, пацісканьні рук, усьмешкі, словы, словы, словы... -- усё гэта як у тумане... Раніца прыносіць цьвярозыя і аналітычныя думкі. Галоўная думка -- прэса. Яна можа згубіць або узьняць актора. Тут месьціцца гамлетаўскае "быць, ці ня быць". Мімаволі вусны шэпчуць знаёмыя словы арыі Ленскага: "Ці я загіну пад стралою, ці міма праляціць яна?". Хто з актораў ня ведае гэтых балючых хваляваньняў на першых кроках свайго служэньня мастацтву? Газэтаў няма цярплівасьці чакаць. Час паўзе так павольна, што здаецца, быццам зусім спыніўся. Нарэшце, на стале ляжаць яшчэ сьвежыя, з пахам друкарскае хварбы, бачыны. Рукі дрыжаць, і прагныя вочы шукаюць прысуду. Ах, вось ён! --"Яму (Ленскаму -- Забэйдзе) прыгожа удалася і сцэна балю у Ларыных, але у сцэне дуэлі ён пераўысіў усе спадзяваньні!". Нібы гара падае з плечаў: "Удача! Удача!". У рэакцыйнай прастрацыі бягуць думкі аб пройдзеным шляху. Прабяжым і мы разам з нашым сьпеваком па гадох мінулага. Хіба не цікава адказаць на пытаньне, як гэты беларус апынуўся у Харбіне, вялікім кітайскім горадзе міжнароднага значаньня, з шматлікім рознанацыянальным жыхарствам. І на экране жыцьця устаюць перад намі вобразы. Вось беларуская вёска Падароска Ваўкавыскага павету, сям'я вясковага млынара. Тут у 1900 годзе у чэрвені месяцы нарадзілася дзіцятка, наш сяньняшні знаёмы, Міхасік. Бацька рана памёр. Матка, старэйшы брат і ён засталіся у вельмі цяжкім становішчы. Зямлі сваёй ня было, і трэба было шукаць кавалку хлеба у найміцкай працы. Матка ідзе у панскі двор, у сяло Шэйпякі Косаўскага павету. Старэйшага сына аддае да сястры, а маленькага Міхася бярэ з сабою. Зачыніць яго бывала у хаце, а сама ад раніцы да р позьняга вечару працуе на панскім полі.

(Працяг будзе).

## ПРЫСВЕЧАНЫ МІЖНАРОДНАМУ ГОДУ СЯМ'І







# КАЛІ ЛАСКА, У НАШУ ХАТУ!

У Слоніме прайшоў першы рэспубліканскі фестываль сямейных ансамбляў. Гэтае свята народных талентаў адбылося з нагоды аб'яўленага Генеральнай Асамблеяй ААН 1994 года Міжнародным годам сям'і. Напэўна не выпадкова месцам яго правядзення стаў горад над Шчарай. Яшчэ ў XVIII стагоддзі слонімская сядзіба музаў Міхала Казіміра Агінскага стала культурнай Венецыяй Рэчы Паспалітай.

Здаецца, сама прырода вітала ўдзельнікаў фестывалю сонечнай усмешкай, разагнаўшы на некалькі гадзін шчыльную шэрую тоўшчу хмар. Апынуўшыся ў фае раённага Дома культуры, госці і слонімцы адразу акунуліся ў свет народнай музыкі, спеваў. Перад уваходам у глядзельную залу хатні тэатр "Батлейка" з горада Гродна разыграў перад прысутнымі калядныя гулянні. Сем'і Муліцаў, Куліцкіх і Блудавых перадалі той самабытны каларыт народнага свята, якое ўвасабляе характэрныя рысы нацыянальнай культуры беларусаў з іх традыцыямі, звычкамі, рамёствамі. Потым самадзейныя артысты "Батлейкі" запрасілі ўсіх у залу.

Выкананнем сямейнымі ансамблямі Слонімшчыны песні "Родны мой Слонім", якая неафіцыйна стала гімнам гэтага краю, распачаўся фестываль. У ім прынялі ўдзел сямейныя творчыя калектывы рэспублікі пасля адборачных конкурсаў у сваіх абласцях і горадзе Мінску.

Праграма фестывалю была багатая і разнастайная па рэпертуару, выканаўчаму майстэрству, мастацкаму афармленню нумароў.

Пра гонар, адданасць, любоў да роднай Віцебшчыны распавядала прысутным сям'я Кавалёвых выкананнем песні "Родны бераг". "Прывет вам вельмі нізкі ад вёсачкі-калыскі, калыскі светлых мараў аб доме, зямлі, маме...". У гэтых словах прывітальнай песні, якую праспявалі Парфенчыкі з Лідскага раёна, адчуваюцца пяшчота і любоў да матчынага кута. Песняй "Там за гаем" маці і дачка Сёмкі з горада Пружаны Брэсцкай вобласці расказалі пра прыгажосць і непаўторнасць сваёй бацькоўскай старонкі.

-- Гэты фестываль яшчэ раз пераконвае, што крыніцы народных талентаў на Беларусі -- бязмежныя, -- зазначыў старшыня журы, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча, прафесар М. Дрынеўскі. -- Якое багацце, які россып культурнага жэмчугу знаходзіцца ў нашай краіне! Ведаеце, нават гонар ахоплівае, што ты з'яўляешся беларусам. Дзякуй нашым людзям за тую прыгажосць, за тую духоўнасць, якія давялося адчуць на гэтым свяце.

І вось зайгралі гарманісты браты Пётр і Валерый Кудраўцы з Магілёўшчыны, а маці заспявала прыпеўкі. Ажыла зала, сёй-той затупаў нагамі ў такт музыцы і, здавалася, кінецца ў скокі. Яшчэ хлапчуком Пётр упершыню ўзяў гармонь у рукі і з таго часу ўжо дваццаць гадоў не развітваецца з ёю. Віртуозную тэхніку выканання паказаў ён гледачам.

А этнаграфічны ансамбль Салановічаў з Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці прадэманстраваў прысутным, што і бытавыя прылады -- разнастайныя грабяні, качалкі для прасавання бялізны, самапрагі, лыжкі і верацяно -- пры жаданні і таленце могуць стаць цудоўнымі музычнымі інструментамі.

Сям'я -- сем і я. Матуля, тата, сваякі і пяцігадовая Наташа -- і атрымаўся сямейны ансамбль Марцінкевічаў з Карэліч. Пасля выканання імі песні "Жыта ў полі" доўга ў зале не змаўкалі апладысменты. Нават прыйшлося двойчы выходзіць на "біс" і паўтараць нумар.

-- У нашым рэпертуары шмат беларускіх народных песень, але з-за абмежаванасці часу фестывалю прыйшлося выканаць толькі адну, -- заўважыў з жалем галава сямейства Сяргей Марцінкевіч.

-- Такія фестывалі -- гэта цудоўная форма развіцця і адраджэння нашай культуры, -- заваструыў увагу М. Дрынеўскі. -- Вось тут мы бачым нашы карані, нашу прыроду. Яны западуць у душу кожнаму -- малому і старому. Такое свята робіць чалавека чалавекам, духоўна ўзбагачае.

І сапраўды, дзе, як не ў сям'і, дзіця пазнае сваю роднасць, узбагачаецца духоўнай належнасцю да сваёй бацькаўшчыны. Таму ў сваёй большасці сямейныя ансамблі выступалі ў саставе -- мама, тата і я. Але народнае мастацтва не мае ўзроставых межаў. Самаму малодшаму ўдзельніку Арцёму з сям'і Міхаенкаў з Гродзеншчыны было чатыры гады, а самаму старэйшаму -- Пятру Міхайлавічу Саляніку з Гомельскай вобласці 76.

Хоць у рэпертуары ўдзельнікаў фестывалю прысутнічаў пераважна фальклор, але некаторыя выканаўцы аддавалі перавагу класіцы, аўтарскім сачыненням. Трапна назвалі вядучага свята Ілью Кісялёва-Кашавога "ваўкавыскім салаўём". Яго "Іспанка" і "Незабыўная Марыя" проста зачаравалі прысутных.

Два дні фестывалю праляцелі імгненна, асабліва для гледачоў, ды і не толькі для іх.

-- З нейкай журботай я пакідаю Слонім, -- прызнаўся М. Дрынеўскі. -- Здаецца, развітваюся з нечым дарагім, родным... І цяпер з вялікім хваляваннем буду чакаць наступнага фестывалю.

Па прапанове кіраўніцтва горада і раёна Слонім стане традыцыйным месцам правядзення рэспубліканскага фестывалю сямейных ансамбляў. З гэтым пагадзіліся і яго арганізатары.

Першы рэспубліканскі фестываль сямейных ансамбляў не вызначаў пераможцаў. Ды і не гэта, напэўна, галоўнае. Мэта гэтага свята -- адкрыццё новых дараванняў, талентаў, прапаганда лепшых узораў мастацкай творчасці.

А ўдзельнікі і лаўрэаты фестывалю пакідалі Слонім не толькі з узнагародамі, прызамі, падарункамі, але кожны з іх вяртаўся дамоў і адчуваў цеплыню, шчырасць і павагу Гродзеншчыны.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК.**

**НА ЗДЫМКАХ: моманты фестывалю.**

**Фота аўтара.**

# ЧЫРВОНЫ СТРУМЕНЬ СВАБОДЫ

### (Валерый УРУБЛЕЎСКІ)

З прыходам Дамброўскага і Урублеўскага камунары атрымалі ўпэўненасць, што для абароны рэвалюцыйнага Парыжа будзе зроблена ўсё магчымае. На пасяджэнні камуны член Інтэрнацыянала Жэрардэн заявіў: "Генерал Урублеўскі знайшоў усе фарты пакінутымі на волю лёсу, цяпер яны могуць абараняцца".

У карэспандэнцыі з Парыжа Юзаф Такаржэвіч даў цікавую параўнальную характарыстыку абодвух знакамітых генералаў камуны. Таленавітыя палкаводцы, адданыя рэвалюцыянеры, яны моцна адрозніваліся як знешне, так і характарам. Яны нават як бы спаборнічалі адзін з адным. Але гэта было спаборніцтва змагароў-аднадумцаў. "...Дамброўскі худы, нізенькі, бледны, меў мянушку Лакатка, -- піша Такаржэвіч. -- Урублеўскі на цэлую галаву вышэйшы за яго, аб ім не раз чуліся захопленыя галасы жанчын: "Прыгожы і складзены, як Апалон"... Першы -- светлы бландзін з шэрымі, надзвычай жвавымі вачыма, а другі -- цёмны брунет з праніклівa вострым і ганарлівым поглядам..." Далей параўноўваюцца іх ваенныя таленты: "У ваенным майстэрстве прызваннем і стыхіяй з"яўляецца для першага абарона, а для другога -- наступленне. Адзін здолее спакойна памерці на апошняй барыкадзе, другі павінен перамагчы ў першай жа шалёнай сутычцы або памерці".

На фронце Урублеўскага тады ішлі зацятыя крывавыя баі. Версальцы рваліся праз паўднёвыя фарты ў Парыж. Цяжкія гарматы версальцаў метадычна руйнавалі ўмацаванні камунараў. Урублеўскі разумеў, што выратаваць справу можа толькі актыўная тактыка, вылазкі і дыверсіі ў тыле наступаючага ворага. Гераічны пафас тых дзён добра перадае рапарт Урублеўскага ваеннаму дэлегату камуны ад 3 мая 1871 года:

"Грамадзянін міністр!

Настойваючы на атрыманні падмацаванняў як артылерыяй, так і пяхотай і кавалерыяй, я намерваўся не толькі працягваць абарону, каб захаваць свае пазіцыі, але і перайсці ў зручны момант у наступленне, каб з дапамогай рупліва разлічанага плана атакі пагражаць пазіцыям на плато Банье, у Шацёне і Кламары, якія няспынна б"юць па Ванву і Ісі...

Генерал камандуючы левым флангам Валерый Урублеўскі".

Падмацаванняў не было. 9 мая зноў -- цяпер ужо канчаткова -- камунары пакінулі форт Ісі, дакладней, тое, што заставалася на месцы былога форта. Назаўтра версальцы атакавалі і захапілі форт Ванв, размешчаны побач.

Урублеўскі падняў два батальёны і павёў іх у штыкавую атаку, як некалі вадзіў у бой касінераў у Ружанскай пушчы. Версальцы з ганьбаю ўцяклі. Валерый цудам выйшаў жывым з гэтай схваткі. Затое камунары не толькі зноў авалодалі фортам Ванв, але захапілі трафеі і палонных. "Лішні раз храбрыя федэраты паказалі, на што яны здольныя, калі ў іх быў кіраўнік", -- заўважае Лісагарэ.

Але становішча было ўжо безнадзейным.

21 мая версальцы ўвайшлі ў Парыж праз вароты Сен-Клу, на ўчастку Дамброўскага. Распачаліся вулічныя баі ў самім горадзе, надышоў "Крывавы тыдзень" -- восем дзён разлютаваных барыкадных баёў, калі загінулі тысячы абаронцаў рабочага Парыжа.

**Брамы здабыты,**
**узяты і форты,**
**смерць ужо блізка,**
**з вуліцы кожнай,**
**нібы з аорты,**
**кроў палілася парыжская...**
**Але Парыж умее згінуць,**
**Камуна не дасца прыгону!**
**Свабода, жыці ты будзеш,**
**струмень твой чырвоны,..** --

пісаў пра гэты трагічны момант польскі паэт У.Бранеўскі ў паэме "Парыжская камуна" (пераклад Янкі Купалы).

Паўднёвая частка Парыжа (на поўдзень ад Сены), дзе абаронай кіраваў Урублеўскі, трымалася найбольш упарта. У гэтых апошніх баях, бадай што, з найбольшай сілай праявіўся палкаводчы талент нашага земляка, яго сталасць, цвёрдасць і дальнабачнасць.

У гісторыю Парыжскай каму-

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 50-52, 1-2, 4 (1994 г.).**

# НА ФАЛЬКЛОРНЫ ПАСАД МІЖ НАРОДАМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**15 чэрвеня -- урачыстае адкрыццё фестывалю і святочны канцэрт у Пінску.**

**16 чэрвеня -- свята аўтэнтычнага фальклору "Галасы вякоў" -- выступленні фальклорных калектываў з вёсак усіх рэгіёнаў Беларусі ў Пінску.**

**17 чэрвеня -- выступленні дзіцячых і маладзёжных фальклорных калектываў у Пінску.**

**18 чэрвеня -- фестываль народнага танца "Палескі карагод" і заключны канцэрт усіх удзельнікаў у Пінску.**

**19 чэрвеня -- па шляху Пінск--Мінск сустрэчы з жыхарамі і канцэрты з удзелам мясцовых фальклорных калектываў,**

**канцэрт удзельнікаў фестывалю ў Мінску.**

**20 чэрвеня -- Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Фальклор і сучасная культура",**

**канцэрт Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята".**

**21 чэрвеня -- праца дыскусійных "круглых сталоў" навукова-практычнай канферэнцыі, падвядзенне вынікаў фестывалю.**

Нам, беларусам, вельмі важна на прыгожай, магутнай хвалі нацыянальнага Адраджэння, імкненні "людзьмі звацца" паказаць свету старажытнасць і прыгажосць, а яшчэ ў большай ступені самабытнасць і непаўторнасць беларускага фальклору. У гэтым сэнсе радуе выбар месца і часу правядзення фестывалю фальклору -- Піншчына як старажытны і гістарычны цэнтр Палесся, які захаваў непаўторнае аблічча старажытнаславянскай культуры на нашых землях, быў адным з першых цэнтраў утварэння беларускай дзяржаўнасці і асветніцтва, але ў выніку шчаслівай аддаленасці ад разбуральнай восі Усход--Захад, геаграфічнай цяжкадаступнасці захаваў унікальную рэгіянальна-фальклорную культурную самабытнасць. Гэта абгрунтавала стварэнне ў Беларускім інстытуце праблем культуры часовага навуковага калектыву, які напярэдадні міжнароднага фестывалю фальклору правёў чатыры грунтоўныя комплексныя экспедыцыі па даследаванню традыцыйнай мастацкай культуры Палесся і зрабіў важкі ўклад у высвятленне аб'ектыўнае стану этнакультурнай сітуацыі, на якой з'явіліся некаторыя палітычныя спекуляцыі тыпу штучна прыдуманай "яцвяжскай" на Заходнім Палессі.

Непаўторная, для нашага часу нават дзіўная, бо існуе на Піншчыне ў натуральным асяроддзі, з'ява святочнай культуры -- ваджэнне Куста на Тройцу. Сёлета гэтае матрыманіяльнае дахрысціянскае свята якраз будзе праходзіць у вёсках Пінскага і ўсіх суседніх раёнаў цэнтральнага Палесся 19 чэрвеня і ўдзельнікі фестывалю змогуць яго пабачыць сваімі вачамі, калі самую прыгожую дзяўчыну прыбіраюць Кустом і з прыгожымі песнямі і пажаданнямі абходзяць хаты, атрымліваюць ахвяры сімвалу урадлівасці -- Кусту. Лейтматыў абходаў: "Дзе Куста нашая ходзіць -- там жыта родзіць" -- раскрывае сакральны сэнс свята -- найвышэйшы росквіт прыроды і надзею на добры ураджай. Святы Куста, Сёмухі, Провадаў русалкі, якія прыпадаюць на час правядзення фестывалю, а таксама блізкія Купалле, Пятро, Жніво фалькларыстам уяўляюцца найбольш своечасовымі і жаданымі на фестывалі. Праз іх нам удасца паказаць сапраўдную, глыбінную, а таму самабытную фальклорную культуру, а не тое забаўляльна-шлягернае мастацтва, якое, па ацэнцы прэсы, пераважала на згаданых маскоўскім і кіеўскім фестывалях. Фальклорная стыхія самабытнасці, непасрэднасці, імправізацыі, шчырасці, творчай свабоды не павінна на такіх фестывалях падмяняцца заарганізаванасцю, адміністраваннем, стрымліваннем фальклорнай стыхіі, творчага самаразвіцця, падменай фальклору мастацкай самадзейнасцю з яе арыентацыяй на прафесійнае мастацтва.

Правядзенне фестывалю павінна стаць добрым прыгожым пачаткам выканання прынятай урадам дзяржаўнай праграмы падтрымкі традыцыйнай культуры на 1994--1996 гады. Яна была распрацавана ў тым жа Беларускім інстытуце праблем культуры сумесна з Асацыяцыяй фалькларыстаў і Саюзам народных майстроў, на жаль, крыўдна ўрэзаная ў многіх выключна важных аспектах. Так, фактычна выключаны дзяржаўныя захады па падтрымцы таленавітых носьбітаў і выканаўцаў фальклору, фальклорных калектываў і народных майстроў. Калі ўлічыць узроставую цыклізацыю ў фальклоры, то імі з'яўляюцца, як правіла, старыя і нават самыя старыя людзі -- найбольш безабаронная ў цяперашніх умовах і адначасова самая мудрая, разумная, прыгожая частка грамадства, якая сёння ледзь існуе ў жабрацкіх умовах. Калі мы не выратуем гэтую найбольш самабытную частку носьбітаў культурнага генафонду, не перададзім эстафету ад іх дзецям і моладзі, тады наша нацыянальнае Адраджэнне застанецца прыгожай марай. Каб падтрымаць гэтых людзей маральна і матэрыяльна, Асацыяцыя фалькларыстаў Беларусі мяркуе правесці ў рамках фестывалю, як гэта было зроблена і летась, канцэрты лепшых носьбітаў фальклору старэйшага ўзросту не толькі з Палесся, але і з Панямоння, Паазер'я, Падняпроўя і цэнтральнай Беларусі. Для гэтай мэты Асацыяцыя фалькларыстаў Беларусі просіць заможных суродзічаў за мяжой, айчынных прадпрымальнікаў, камерсантаў, усіх шчырых прыхільнікаў самабытнай культуры беларусаў падтрымаць матэрыяльна гэтых нямоглых, састарэлых, часта зусім хворых людзей ці інвалідаў, якія захавалі ў сабе багатую прыгожую беларускую песенную душу. Радзіма будзе навекі ўдзячная вам! Нам прыемна паведаміць, што гэтую святую акцыю згадзіліся падтрымаць Беларуская страхавая кампанія (выканаўчы дырэктар Мікола Антропаў), Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва (выканаўчы дырэктар Уладзімір Аляшкевіч).

З асаблівай шчырасцю мы запрашаем на фестываль беларускага фальклору замежныя асяродкі беларускай культуры, пры якіх існуюць такія фальклорныя калектывы, як напрыклад, "Васілёк" у Нью-Йорку. Ваш удзел у фестывалі зробіць яго сапраўды **беларускім міжнародным.**

Беларусы, як адзін з выключна песенных народаў, аб чым сведчыў яшчэ у 40-х гадах XIX стагоддзя геніяльны ўраджэнец Беларусі Адам Міцкевіч і што празорліва заўважыў у 80-я таго ж стагоддзя пачынальнік музычнай славянскай фалькларыстыкі чэх Людвік Куба, заўсёды з любоўю ставіліся да песень другіх народаў. Прыкладам тут быў геніяльны хлопец з-пад Ружан Міхась Забэйда-Суміцкі, які спяваў у свой час нават у міланскай "Ла Скала". Побач з беларускімі ў яго канцэртах гучалі песні многіх народаў свету.

Яго традыцыю прадоўжыў у наш час і паказвае ўсяму свету прыгажосць і выключны лірызм беларускай народнай песні побач з песнямі другіх народаў незраўнаны Багдан Андрусышын з Амерыкі. Яго, нашу суайчынніцу Валянціну Пархоменка, усіх іншых таленавітых выканаўцаў беларускай народнай песні мы будзем рады бачыць, чуць і вітаць на нашым песенным святе. Асацыяцыя фалькларыстаў Беларусі гатова аказаць вам дапамогу ў падборы рэпертуару, адборы лепшых узораў роднай песні да фестывалю (тэл. 27-65-83 -- Васіль Ліцьвінка).

Важнейшай часткай фестывалю ў Мінску будзе двухдзённая і міжнародная навукова-практычная канферэнцыя аб месцы фальклору ў сучаснай культуры.

Добра, што за справу арганізацыі канферэнцыі ўзялася рэктар Беларускага універсітэта культуры (былы Мінскі інстытут культуры) Ядвіга Грыгаровіч.

Напярэдадні падрыхтоўкі да фестывалю для прадстаўніцтва Беларусі на міжнародным узроўні быў створаны нацыянальны савет па фальклору, які ўзначаліў вядомы дзяржаўны дзеяч, паэт і фалькларыст Ніл Гілевіч. У самым канцы 1993 года Рэспубліка Беларусь была прынята ў члены Міжнароднага савета па арганізацыі фестываляў фальклору і традыцыйных мастацтваў, цэнтр якога знаходзіцца ў Швецыі. Таму першы міжнародны фестываль на Беларусі мы павінны бачыць і як добрую школу адбору фальклорных калектываў для высокамастацкага прадстаўніцтва беларускага фальклору на міжнародных фестывалях. Вельмі важна ў гэтым сэнсе распрацаваць на дзяржаўным узроўні статус фальклорнага калектыву, у аснову якога трэба пакласці арыентацыю вясковых калектываў на захаванне рэгіянальнай мастацкай традыцыі. Агульнавядома, што назву фальклорных часта носяць звычайныя калектывы мастацкай самадзейнасці, а многія фальклорныя калектывы выконваюць не лепшыя ўзоры нацыянальнага фальклору.

**Дарагія суродзічы за мяжой, суседзі, шчырыя беларусы, прадстаўнікі-прыхільнікі беларускай культуры рускай, польскай, украінскай, літоўскай, яўрэйскай, татарскай і іншых нацыянальнасцяў на Беларусі, усе грамадзяне! Фалькларысты, работнікі культуры і адукацыі звяртаюцца да вас і просяць прыняць удзел у падрыхтоўцы першага на Беларусі міжнароднага фестывалю фальклору. Чым больш нас будзе, асабліва дзяцей і моладзі, тым больш нацыянальным і святочным будзе фестываль. Асаблівую надзею мы ўскладаем на песенную Піншчыну з яе унікальнымі песеннымі мясцовымі традыцыямі.**

Трэба зазначыць, што дзяржава выдзеліла, якія магла, сродкі на правядзенне фестывалю, але іх недастаткова. Таму мы звяртаемся да нашых магчымых фундатараў-сяброў, для якіх падаём ніжэй тэлефоны:

Аргкамітэт -- 29-63-92

Дырэкцыя -- 63-05-38

Для матэрыяльнай падтрымкі фестывалю пры дырэкцыі ў Беларускім інстытуце праблем культуры (г. Мінск, вул. Каліноўскага, 12) адкрыты разліковы рахунак N 601516 з адзнакай "Фестываль" у камерцыйным банку "ПОШУК" Першамайскага раёна г. Мінска.

Сябры! Дапамажыце роднай песні, свайму народу. Удзячны, ён заплаціць вам сваёй павагай, добрым словам і, канешне, шчырай, прыгожай песняй.

Да нас, да нас, сябры, на Зялёныя Святы!

На фестываль!

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

*ДА 75-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Паўла КАРМУНІНА*



Для Паўла Кармуніна Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы стаў галоўным тэатрам яго жыцця. На яго сцэне ён выступае трыццаць гадоў -- і стварыў свае лепшыя ролі. Павел Кармунін -- беларускі нацыянальны акцёр, і ні ў кога гэта не выклікае сумнення, хаця 75 гадоў назад Павел Васільевіч нарадзіўся ў вёсцы Вялікія Ключы Зяленадольскага раёна Татарскай аўтаномнай рэспублікі. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, прайшоў яе нялёгкімі дарогамі як кіраўнік франтавых ансамбляў. І нават пасля вайны яшчэ некалькі гадоў заставаўся ў Берліне, працуючы ў Тэатры савецкай ваеннай адміністрацыі.

З 1964 года Павел Кармунін на сцэне купалаўскага тэатра, дзе яго лепшыя работы звязаны з увасабленнем роляў беларускага рэпертуару. Ён Лявон Зяблік і Сцяпан Крыніцкі ў п'есах Я.Купалы "Раскіданае гняздо" і "Паўлінка", Торгала ў "Браме неўміручасці" К.Крапівы, Кічкайла ў "Амністыі" М.Матукоўскага, Іаахім у "Напісанае застаецца" А.Петрашкевіча. П.Кармунін -- выканаўца роляў па творах І.Мележа, С.Грахоўскага, у п'есах А.Макаёнка і А.Дударава.

Героі Кармуніна непаўторныя, таму што акцёру, які стварае гэтыя вобразы, уласцівыя мяккасць і чалавекалюбства, тонкі гумар і праўдзівасць сцэнічных паводзін, пачуццё меры і такту, глыбокае веданне чалавека і ўменне прыўнесці сваё бачанне і разуменне яго душы.

Шырокаму гледачу акцёр Павел Кармунін знаёмы яшчэ і па тэле- і кінафільмах "Другія вёрсты вайны", "Соль зямлі", "Дзяржаўная граніца", "Не пройдзе і года", "Красная плошча", "Рагаты бастыён", "Адзінота", "Рудабельская рэспубліка", "Трэцяга не дадзена" і многіх іншых.

У дзень юбілею прызнанаму майстру беларускай сцэны Паўлу Васільевічу Кармуніну можна толькі пажадаць далейшага раскрыцця шчодрага акцёрскага даравання і сталой глядацкай любові і ўдзячнасці.

---

ны яркай старонкай увайшлі баі ў раёне Бют-о-Кай, якія распачаліся 24 мая. "Менавіта там, ацаніўшы сваім зоркім поглядам палкаводца важнае значэнне Бют-о-Кай, Урублеўскі арганізаваў моцную абарончую пазіцыю,.." -- піша французскі гісторык Эміль Тэрсан. І далей: "Чатыры разы пераможна адбівае Урублеўскі атакі версальцаў, выяўляючы талент выдатнага палкаводца, ён нават пераходзіць у контратаку і, затрымліваючы наступленне непрыяцеля не толькі ў сваім сектары, але на ўсім тэатры ваенных дзеянняў, прыкрывае перагрупіроўку войскаў, што адбывалася ў гэты момант".

Камуна пала. У захопленым горадзе лютавалі версальцы. Тысячы і тысячы камунараў былі расстраляны. А Урублеўскі нібы і не спяшаўся з горада, з якім яго звязвала цяпер вельмі многае. Нарэшце ён згадзіўся выехаць, скарыстаўшы нямецкі пашпарт, прысланы з Лондана па даручэнню Карла Маркса. Гэты пашпарт (на імя В. Вальдэмара) перадаў Урублеўскаму рускі рэвалюцыянер Пётр Лаўроў.

Да канца жыцця наш зямляк шкадаваў: "Калі б у мяне ў тыя дні было пад рукой хаця б пяцьдзесят тысяч байцоў, якія слухалі б маю каманду "Наперад!", мы былі б гаспадарамі не толькі Парыжа, але ўсёй Францыі..."

І вось генерал у Лондане. Пасля ўсіх выпрабаванняў, якіх хапіла б не на адно жыццё, ён цяжка хварэў. У яго не было ніякіх сродкаў. Трэба было тэрмінова арганізаваць яго лячэнне і знайсці яму нейкі занятак у незнаёмым горадзе. "Мы зрабілі ўсё, што было ў нашых сілах, -- пісаў Ф. Энгельс П. Лаўрову 29 лістапада 1871 года, -- але з-за ўпартага і хваравіта гордага характару гэтага чалавека нам прыйшлося дзейнічаць вельмі асцярожна; тым не менш мы думаем, што нам удалося дабіцца хаця б таго, што ён прынамсі забяспечаны самым неабходным. Вы ведаеце, што ён адмаўляецца ад усякай урачэбнай дапамогі, і перамагчы гэтую прадузятасць будзе яшчэ цяжэй".

У верасні 1873 года К. Маркс настойліва прасіў аднаго са сваіх знаёмых уладкаваць Урублеўскага на работу. Пры гэтым ён пісаў пра Урублеўскага як пра чалавека, "які нарадзіўся ў Літве (на Беларусі) і ведае **рускую** мову гэтак сама ж добра, як і польскую" (беларуская не згадваецца, бо каму яна тут, на берагах Тэмзы, не маючы пэўнага дзяржаўна-афіцыйнага статуса, была па сутнасці патрэбная, хоць у розныя часы ў гісторыі Лондана і здараліся асобныя беларускія старонкі -- успомнім хаця б імя нашага пісьменніка А. Рыпінскага, які пражыў тут нямала часу і нават надрукаваў у 1853 годзе па-беларуску лацінкай баладу "Нячысцік").

У кастрычніку 1871 года Урублеўскі выбіраецца членам Генеральнага Савета Інтэрнацыянала, сакратаром-карэспандэнтам для Польшчы. Ідэі Інтэрнацыянала ён нясе ў эміграцкую арганізацыю "Люд польскі", утвораную ў Лондане па яго ініцыятыве.

Аўтарытэт Урублеўскага ў міжнародным рабочым руху быў вельмі высокі. Усе ведалі рэвалюцыйныя заслугі генерала, завочна прысуджанага версальскім ваенным судом да пакарання смерцю (гэта пасля аналагічнага прыгавора царскага суда за ўдзел у паўстанні 1863). Інтэрнацыянал сам выбраў Урублеўскага сваім вярхоўным суддзёй. У 1871--1872 гадах Урублеўскі з'яўляўся старшынёй судовай ("трацейскай") камісіі, якая разбірала канфлікты паміж членамі Інтэрнацыянала.

Чалавек дзеяння, Урублеўскі рэдка выступаў у друку, але гісторыя захавала нямала яго яркіх выступленняў на розных мітынгах і сходах, якія арганізоўваліся ў Лондане ў сувязі з гадавінамі важных падзей гісторыі і рэвалюцыйнага руху Польшчы (і адпаведна Літвы--Беларусі). Урачыстасці адбываліся звычайна ў таверне "Пад белым канём", дзе любілі збірацца эмігранты.

Так было ў 1875 годзе на ўрачыстасці, прысвечанай дванаццатай гадавіне паўстання 1863 года.

Малады магілёвец Мікалай Судзілоўскі (потым вядомы рэвалюцыйны і грамадскі дзеяч) побач са словамі шчырай павагі да польскага рэвалюцыйнага руху, да баявых традыцый Беларусі і Літвы выказаў заўвагу, што паўстанне 1863 года, якое ён назіраў у дзяцінстве, не было ў належнай ступені падтрымана народам. Але назіранні Судзілоўскага былі лакальныя. Адказваючы яму, Урублеўскі справядліва адзначыў, што той мяркуе пра рэчы, якія недастаткова ведае. "Каб ведаць паўстанне 1863 года, трэба было бачыць іншыя ваяводствы, а не Магілёўскае, дзе не было ніякага руху, апрача невялікай дэманстрацыі ў Горках", -- усхвалявана папраўіў ён прамоўцу. Сам Урублеўскі добра помніў тую дапамогу, якую аказваў яму ў 1863 годзе народ на Гродзеншчыне. Узяўшы слова для гэтай даведкі, Урублеўскі яшчэ раз ушанаваў памяць гераічных сяброў па паўстанню, памяць Каліноўскага.

Праз рэвалюцыю, праз супольную барацьбу, праз польска-рускі рэвалюцыйны саюз бачыў Урублеўскі свой шлях на радзіму.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

# "УСЯСЛАЎ-КНЯЗЬ УНАЧЫ ВОЎКАМ БЕГАЎ"

(Заканчэнне. Працяг на 4-й стар.).

Племя водзь, з якога паходзіла, на думку М. Ермаловіча, маці князя Усяслава, называлася не толькі чуддзю. У гэтага народа было яшчэ адно імя, зафіксаванае летапісамі, — норама, нерама, норава. У 1067 годзе полацкі князь Усяслаў захапіў Ноўгарад, але ж не ўвесь горад, а толькі да Нераўскага канца (частка горада). Чаму Усяслаў не крануў Нераўскі канец? Справа ў тым, што ў саюзе з полацкім князем у паходзе на Ноўгарад прымала ўдзел і водзь-нерава, а Нераўскі канец быў у нейкай ступені водскім. Такім чынам, маці Усяслава, відаць па ўсяму, паходзіла не проста з фіна-угорскага племя, а з таго племя, якое ўзнікла ў выніку ўзаемадзеяння неўраў і водзі, ці кельтаў і фіна-ўграў. Вось чаму Усяслаў Брачыславіч быў не толькі вешчуном, але яшчэ і "ваўкалакам"-чарадзеем.

Некалькі слоў пра тое, што гэта былі за "змеі", якія нібыта напалі на неўраў з пустыні і прымусілі іх перасяліцца да будзінаў-вадзінаў. Матыў змей вядомы ў генеалагічных паданнях і іншых народаў. У лангабардскім фальклоры ў адным з паданняў апавядаецца, што германскае племя лангабардаў прыгнятаецца змеямі і з гэтай прычыны пакідае першапачатковую радзіму. У гоцкім паданні, якое перадаў Іардан, расказваецца аб прыбыцці готаў на трох караблях са Скандынавіі на востраў Готланд. Першаму пасяленцу вострава і яго жонцы прыснілася, быццам тры змяі скруціліся на грудзях жанчыны. Сон быў вытлумачаны наступным чынам: у першапасяленцаў будзе тры сыны. Так і здарылася. Дзеці дзеляць востраў на тры часткі. Хутка народ на Готландзе памножыўся настолькі, што зямля не магла ўсіх пракарміць. Тады і пачалося высяленне з краіны кожнага трэцяга яе жыхара.

Тут можна ўспомніць славянскія казкі аб трох братах, якія дзеляць бацькоўскую спадчыну, лангабардскія паданні аб дзяленні лангабардаў на тры часткі ў Скандынавіі. Можна ўспомніць таксама скіфскае паданне аб сынах Геракла і Змяі. Нарэшце, зноў-такі славянскія казкі аб... Змеі Гарынычы, значна трансфармаваныя ў сваім канчатковым варыянце, які да нас дайшоў. Матыў змяі ці змей -- гэта матыў народанасельніцтва. Змеі, якія з'яўляюцца, — гэта сімвал росту народанасельніцтва і, як вынік, пачатку перасялення з папярэдняй (першапачатковай) радзімы.

На заканчэнне яшчэ адзін штрых аб тых вольках-цектасагах, гэта значыць, кельтах, якія цяснілі дунайскіх славян і прымушалі апошніх перамяшчацца на поўнач і ўсход (паўднёвы ўсход, паўночны ўсход). Гэтыя волькі-волахі праніклі не толькі на тэрыторыю Усходняй Славіі, але і на землі сучаснай Заходняй Славіі. Рымскі аўтар пачатку І стагоддзя новай эры Пампоній Мела сярод імёнаў скіфскіх народаў, якія насялялі паўночны ўсход Еўропы, называе імя белькаў, што жывуць на ўзбярэжжы. Найменне волкі выкарыстоўвалася старажытнымі аўтарамі для называння славянскага палабска-балтыйскага саюза люцічаў. Гэтых люцічаў называлі таксама вялетамі, вельтамі (з першапачатковага волкі, волькі, белькі). Узнікненне наймення вялеты, вельты магло адбыцца пад уздзеяннем сугучнага слова волаты, велеты -- "асілкі", бо на долю люцічаў-вялетаў выпала найбольш стойкае супраціўленне нямецкаму наступленню на славянскія землі. Аднак не выключана, што само агульнае слова вялеты, велеты, волаты з'яўляецца не чым іншым, як пераасэнсаваннем папярэдняга, вельмі старажытнага этнічнага наймення, бо назвы народаў, якія зніклі, часта звязваюцца з паняццямі "асілак", "волат" (параўнаем, напрыклад, этнічнае імя обры — "авары" і сучаснае чэшскае слова обр -- "волат", "гігант"). Так, яшчэ Пталамей упамінае народ вельтаў на ўсход ад Віслы ўздоўж узбярэжжа. З 798 па 1157 год народ велетабаў, вільтаў, вільцаў згадваецца на тэрыторыі паміж рэкамі Вартай і Одэрам, а таксама ад сярэдняга цячэння Эльбы і Одэра да вострава Руген. Думаецца, што велетабы, вельты, вільцы, вялеты — гэта славянізаваныя кельты. "Сляды" гэтага народа прасочваюцца ў выглядзе паданняў аб волатах і геаграфічных назваў тыпу Волатава, Валатоўка, Валатоўнае, Вялетаўка і іншых як на тэрыторыі Беларусі, так і на сумежных з ёю землях, галоўным чынам, у паўночнай частцы Усходняй Славіі. Такім чынам, пранікненне кельтаў і іх славянізаваных патомкаў на гістарычныя землі ўсходніх славян назіралася не толькі з паўднёвага захаду, але і з захаду, з Паўднёвай Прыбалтыкі.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## ЯКІ БЫЎ РАНЕЙ КЛІМАТ НА БЕЛАРУСІ?

Аб экстрэмальных прыродных з'явах на Беларусі вядома са старажытных летапісаў (X стагоддзе). Знамянальныя падзеі 1067 года (у прыватнасці, бітва на рацэ Нямізе) характарызуюцца вельмі суровай і снежнай зімой, а 1083 і 1091 гады -- вялікімі эпідэміямі. У 1092 годзе ад спякоты выгарэла наша зямля. На XII стагоддзе прыпадае 12 засух, 5 вялікіх снегападаў, 7 ураганаў, 11 летніх паводак, 10 землятрусаў, XIII стагоддзе пачалося бесперапыннымі дажджамі. Потым былі моцныя маразы, затым эпідэміі, страшэнны голад і пажары. Тады ж фіксуюцца і моцныя навальніцы, у час якіх гінула шмат людзей і жывёлы. Ураганы зносілі цэлыя хаты.

## ДА ЎВАГІ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ

**Летась у нашай газеце быў змешчаны спіс адрасоў і тэлефонаў пасольстваў і консульстваў Рэспублікі Беларусь, якія адкрыліся ў далёкім і блізкім замежжы пасля распаду Савецкага Саюза.**

**Па просьбе замежных суайчыннікаў "Голас Радзімы" і сёлета будзе рэгулярна змяшчаць гэты спіс, а таксама ўключаць у яго і новыя звесткі аб дыпламатычных прадстаўніцтвах, што нядаўна адкрыты за межамі Беларусі.**

**1. Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША**
**1619 New Hamphshire Ave. N.W. Washington D.C. 20009, tel. 202-986-1604.**

**2. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Швейцарскай Канфедэрацыі, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры Міжнародных арганізацыях у Жэневе.**
**Av. de La Paix 15, 1201 Geneve, Suisse (8-104122), tel. 733-18-70.**

**3. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Аўстрыя, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях у Вене**
**Erzherzog Karl-Strasse 182, Vienna a-1220 Austria, tel. 229-352.**

**4. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы, Пастпрэдства Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА**
**1, rue Miollis 75015 Paris, tel. (8-10-331) 43-80-08-92.**

**5. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча (Варшава)**
**Warsaw Athenska Street 67, tel. 17-39-54.**

**6. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Гданьску**
**Тэл. 41-00-26 або 41-40-26, Гданьск.**

**7. Пасольства Рэспублікі Беларусь у дзяржаве Ізраіль**
**2 Hoffmann Strasse (Belt Hatextill), Tel-Aviv, Israel. Tel. 510-22-36, 510-23-37.**

**8. Пасольства Рэспублікі Беларусь у ФРГ**
**Waldstrasse 42, Postfach 200908, 5300 Bonn 2 v Bad-Godesberg, BRD. Tel. (0228) 31-88-40.**

**9. Пасольства Рэспублікі Беларусь у КНР**
**Ul. Duntch Zhi Man Jai, Beitch Zhun Tse, D. 4. Beijing. Tel. 532-64-26.**

**10. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі**
**вул. Марасейка, 17, 101100, г. Масква. Тэл. (095) 924-70-31.**

**11. Пасольства Рэспублікі Беларусь на Украіне.**
**Консул КОПЦКІ Аляксандр Уладзіміравіч.**
**Кіеў, вул. Кутузава, 8. Тэл. 298-63-41, 4-80-06.**

**12. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве.**
**Вільнюс, вул. Клімо, 8. Тэл. 65-12-82.**

**13. Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы**
**г. Юрмала, санаторый "Беларусь". Тэл. (0132) 75-13-30, (75-26-45).**

**14. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі**
**1, St. Stephan's Crescent, Bayswater, London W 25 QT. Tel: 221-39-41.**

**15. Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Балгарыі**
**Тэл. 66-88-19 і 66-21-47.**

## *І ГАДЫ НЕ ПЕРАШКОДА*




**Пешы пераход ад Уладзівастока да Брэста робіць 62-гадовы пенсіянер, кандыдат біялагічных навук, у мінулым супрацоўнік Стаўрапольскага навукова-даследчага інстытута Аляксандр Шаўцоў. 22 лютага 1993 года, прыбыўшы ва Уладзівасток са Стаўрапаля, узяў ён курс на Брэст, пераадольваючы штодзённа да 22-25 кіламетраў, а ў летні час -- не менш 40. За спіной у адважнага падарожніка засталося ўжо каля 10 000 кіламетраў, стаптана чатыры пары ботаў.**

**Першым вялікім горадам на беларускай зямлі для А.Шаўцова стаў Гомель, дзе ён жыў у 1944--1945 гадах. З цікавасцю пазнаёміўся ён з горадам і рушыў далей. У гэтым месяцы падарожнік ужо плануе ступіць на тэрыторыю Брэсцкай крэпасці -- гераічнай цытадэлі, якая першай 50 гадоў назад аказала ворагу дастойнае супраціўленне.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр ШАЎЦОЎ перад выхадам з Гомеля.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Індэкс 63854. Зак.127.
Падпісана да друку 31. 1.1994 г.